

ЯН ЧЫКВІН

# БАЧЫЦЬ СВЕТ

## Лірыка, пераклады
2009–2021



Бельск Падляшскі
2025

* * *

**я адыходжу... Ніхто не пытае,**
**чаму нічога з сабой не бяру**
**і якой доўгай будзе мая дарога?**

**хацеў бы сказаць: хутка вярнуся,**
**але ж скажу: усё залежыць ад Бога...**

***09.01.2015***

Гэту кнігу склалі вершы, напісаныя Янам Чыквіным (1940–2022) на працягу апошніх дзесяці гадоў яго жыцця. Частка з твораў пабачыла свет у кнізе «На беразе Дубіч Царкоўных» (2010). Цалкам узнаўляюцца вершы з кніг «Здарылася быць» (2015) і «Пры стале агнявым» (2021). Апрача таго некаторыя творы друкуюцца ўпершыню. Таксама тут прадстаўлены пераклады, зробленыя Янам Чыквіным у апошнія гады, а менавіта вершы Паўла Гайнтша (Paweł Heintsch, 1924–2008) – аднаго з найвыдатнейшых польскіх паэтаў-святароў другой паловы ХХ стагоддзя і Сусаны Гінзбург (Zuzanna Ginczanka, 1917–1944) – выдатнай польскай паэтэсы яўрэйскага паходжання міжваеннага перыяду, што загінула ў канцлагеры Плашаў пад Кракавам.



# ЛАДДЗЯ

І ссесці прыйдзецца з ладдзі…
О, гонкая мая ладдзя,
Вяшчуння сама-насам!
Пакуль ёсць шчэ хвіліна часу,
Я пры канцы хачу табе сказаць,
Што ўсё жыццё я быў адзін.

І плыў бяспамятна – у нікуды…
Якіясь з берагу клікалі дзяўчаты,
Я, мабыць, быў шчаслівы і любіў –
Жыццё й мяне любіла кратаць:
Нароўні з радасцю сыпала жуды…
Але ж ці з тымі й там я быў?

Ладдзя плыве… Плывуць і берагі,
Плывуць падзеі і краіны,
І мне застаўся шлях адзіны –
Пакуль ёсць шчэ хвіліна часу,
Плыць-плыць бяспамятна туды,
Дзе мы на міг, а будзем разам.

*17.02.2011*

# АЎСЯНКІ

Вецер хітае дрэва,
дрэва гайдае аўсянак,
аўсянкі складаюць песні
пра дрэва, што іх калыша.

А на двары нядзеля,
голас яе звонка-весні,
яна нам дарогу піша,
як паэму змагання.

Ў тым шуме і кліках нішчымных
ёсць водгук вечнага ткання,
якое кладзецца дазвання
ў высокае дрэва айчыны.

*6.03.2011*



* * *

Дзень пражыў – і слава Богу.
І без радасці, без гневу
Я іду навокал дрэва.
Вось і ўся мая дарога.

Розум у разладзе з галавою,
Сэрца ў сэрцы гіне...
Будзь жа, ангел мой, са мною
І на гэтай пуцявіне.
Не збылося, аб чым марыў.
А за ўсё ёсць плата...

Раптам – нібы глухаваты –
Прывід з рысай майго твару –
Між ваконня, між дзвярыма,
Як святлісты пэндзаль сонца,
Што жыццю дае бясконцасць,
Прапускаючы ўсё міма...

*25.03.2011*

* * *

Добры дзень, дзядуля вецер!
Што нясеш мне пад палою пінжака,
Што цікавага у полі ты прыкмеціў,
Ці плыве між берагамі нашая вада?

Я растраціў ўсё мне дарагое,
Дар нябёс на вецер кінуў, поле і раку
І ніколі ўжо таго я не збяру...
Як дзіця прад светам хілае, малое,
Прад табой з адкрытым ротам я стаю.

*19.04.2011*



* * *

У старым Бельску, дзе хвіліны
стаюцца доўгім лёсам чалавечым,
а лёс – кволаю адной хвілінкай,
дзе даўно жывуць цені Блока і Рыльке
і дзе бываў юны Адам Міцкевіч,
адкрыты людзям тутэйшым ды іхнім марам,
з кнігай пад пахай пра янычара –
У старым Бельску, нават і пад ляхам,
шляхі крыжуюцца сваім адметным шляхам.

І дзе і я іду пад Шляхам Млечным,
злучаючы ў адно з нявечнасцю ўсю вечнасць.

І дзе і я нат за найменшую пылінку часу
нязмерна ўдзячны боскаму выразу.

*10.10.2010*

* * *

Запрашаю ў Бельск
Захапіцца
Захадам сонца

Знаёмым у незнаёмым
Знешнім ва ўнутраным
Заўсёдным для нас у імгненным

З нашай альтаны бачна далёкая вечнасць

З філіжанкай гарбаты
Забудземся на хвіліну, калі
Знікнем у блізкім зарыве

Здаўна яго прыгажосць
Зроднена з маўчаннем

*29.09.2011*



# СПЛІН

Прыгожы дзень, хоць сонейка няма.
Халаднавата. Вецер, бы сабака,
Шамоча нервы й косьці хоча кусаць,
І біцца ілбом у сон свой крылаты.

Ля гэтых закулісных гульняў долі,
Адкуль ляціць адно каменне,
Душа ў запаветным азарэнні
Не злічыць ўсіх акордаў болю.

Я затаіў прад ёй дыханне
І слухаць рады – можа, нешта скажа...
Але яна глядзела на мяне ўкрадна,
Як на стражніка глядзіць ягоны вязень.

Ах, гэта правінцыйнае турмоцце
З жалезнаю падковай над дзвярыма!
Ідзі абы-куды – наўкол шляхі прамыя,
І сам сабе ахвяра ты і злодзей,

Непадуладны ані свету, ні дарэмным марам
Нягожым днём, калі сонейка так мала.

*8.02.2012*

# ПЕЎНІ ГАЙНАЎКІ

Шэры дзень з сонца не сходзіць.
Карэннем ўверх паўздымаліся дрэвы,
Быццам голыя людзі ідуць па балоце,
Сцягі пралетараў лапочуць на плоце –
Гайнаўка ўсюды. І чуюцца пеўневы спевы.

Кожны сам сабе тут вялікі і слаўны.
Ў вясковым касцюме, як ў світцы турэмнай,
Дзяды, паддзядкі, казлы-рабацягі ды фаўны
Сыходзяць у пушчу, у лес, у дрэвы ціха-звычайна –
Над імі Гайнаўка ўсюды. І пеўневы крыкі-запевы.

Недзе блізка п'юць піва і варыцца каша,
А наводдаль кірмаш – там за нішто прадаюць
мужыкоў
У музей, разам з дзецьмі, бабамі, іхнімі трантамі...
Музыка з воза дармова гудзе і мова сцелецца наша,
Нібы з нейкіх чужых ратоў капае пеўнева кроў!

*8.02.2012*



* * *

Дзеці ў альтанцы п'юць гарбату,
ў шклянках лыжачкі звіняць,
быццам на сланечніку гарбатым
вераб'іная сустрэлася сям'я.

На жывой галінцы слівы
струны чысціць салавей.
Так прывольна, аж шчымліва,
аж не можа быць дабрэй!

Дзень – бы падарунак нейкі,
лёсам кінуты няўзнак
для жывых усіх стварэнняў,
што жыццём ёсць у жыцця.

Па-над спеўнаю чарэшняй,
зноў гудзе пчаліны рой...
Але ў той красе бязмернай
адгукаецца даўно знаёмы боль.

*24.04.2012*

* * *

Праца. Дом. Пасцель.
Дом. Праца. Цела ў цела –
І маладосць зышла ў сярмяжнасць,
і шчаснасць наша праляцела.

Я чуў, як ты сыходзіла ў цень,
як плакала – я быў такі няўважны
да чыстых помыслаў тваёй душы,
да тваіх слоў, да рук тваіх,
да любаты тваёй, сардэчнасці…

Здавалася, так будзе вечна,
заўсёды будзе, як тады,
калі на свет глядзелі мы
нібыта паэты
з нейкай несмяротнай вышыні –
два на ветры матылі,
на вадзе дзве чараціны.

*2.05.2012*



* * *

Каханне не сталася небам.
Плыве-ірвецца павуціння ніць
Калыхлівымі пасмамі цішы.

Адно другому нятрэбныя,
Мы як туркі сядзім і глядзім,
І бачым,
          як за нас рабіна гарыць,
Як восень пяшчотна, без рук
Сама сябе калыша.

А нам хочацца піць –
А навокал пясок і каменне.

*26.06.2012*

* * *

Прыехалі госці. Ля дома
Стаяць механічныя коні,
Ідзе валтузня і разборка,
Дзе хто што паклаў – ці помніць...

Дарункі нясуць. Вандроўка,
Вандроўка, вандроўка
Гісторыяй будзе падворка,
Калі хто яе ўспомніць.

Ніхто не ўспомніць нічога!
Не тыя прыехалі мосці,
Не тая вяла іх дарога!

Чужыя заходзяць чагосьці –
Не, не запросяць у госці...
І пачалі дарункі выносіць.

*9—21.02.2009*



# Радасць

Радасць прыйшла нечакана,
Калі я сядзеў з адзінотай,
Здаўна ў мяне закаханай
Адкрытым сэрцам і ротам.

Радасць была нізкага росту,
Ды ўсюды – усмешка-трымценне
Прыгожыла твар яе просты,
Ніводзін праменьчык не гінуў.

Каб мець яе назаўсёды,
Адчайна схапіў яе ў жменю
І кінуў у доўгую скрыню,
Дзе гадаваў я каменне.

Сяджу – і днюю так, і начую,
Шапку на лоб насунуў.
– Ці чуеш, – ад радасці чую, –
Я сталася жалем тваім і сумам.

*9—21.02.2009*

# ГУСАК І ГУСЫНЯ

*Уява на беразе Дубіч Царкоўных*

## I

### 1.

На ганак выбег з хаты тата,
Сярдзіты ўвесь. – І дзе ж твой статак?!
Бяжы, – сказаў, – шукаць крылатых,
каб іх ліхое не забрала!

Адкормлены што парася,
адзін гусак чаго сам варты!

А дзе гусак – там рэшта стада!
Жыве так кожная сям’я.
Запомні, сыне, гэта праўда свята!



### 2.

Нешматгадовы гаспадар іх Коля
бяжыць, адкрыўшы рот,
                    наўпрост праз поле
да той вады, дзе колісь мылася Маруся.
Цяпер там, мабыць, патапіліся іх гусі
ці караблямі у вялікі свет плылі.
“Такі вялікі, а някем які!
Бяры за ўзор татулю, дзеда:
не йдзі ў жыцці гусіным следам,
не лезь у іхні гаўнякі,
бо будзеш смердам усе вякі!
Такую праўду трэба ведаць!”
Так гаварыла Колю поле.
Там быў такі жывы ўзгорак,
які, калі прыслухацца, меў голас.
Мабыць, пясок тут гаварыў
                    ці камень-цуда
сваёю моваю спрадвечнай...
Але чый там голас мовіць
не ведалі цяперашнія людзі,
як і раней ніхто не ведаў.

3.

Калісь Маруся у вадзе стаяла
і жменямі ваду кідала на грудзі.
Яны былі такія, як у мамы,
і як у мамы – тое між нагамі.

Бліскучая вада сама гарнулася да цела,
займала ўсю ў палон ласкава,
і з плюскам рук імкліва адступала,
і, зноў іграючы, ў бакі ляцела.

Здавалася, сама гусыня без гусяваў
уся ў вадзе вадой вадзела.
— Ах, Коля, Коля, ну й свавольнік!
Чаго ж ты так увесь дрыжыш!?
Паглянь, яшчэ ж з цябе малыш! —
І прытуліла хлопца да сябе нявольна,
як робяць велікадушныя багі —
от, прыгажун, хоць пад вянец
з табой бяжы!..



4.

На беразе ракі ляжаў, і доўга
гулі ў ім шчаслівінкі трывогі.

Такая прыгажосць вакол бясконцая!
Здавалася, ў вадзе купаюцца два сонцы.
І нешта цьмянае плыло ў вачах, няўлоўнае.

І голас знекуль, нечый, як бы ў вуха:
“Як навальніца прыдзе, як улетку бура,
тая, што прыдзе, будзе ў вобразе Марусі.
Ды не спяшайся выйсці за вароты раю...”

## 5.

Была вясна, якой тут не было ніколі,
і лета разам з ёю гнёзды цёплыя віло,
паўсюль жывое нешта і бязмернае жыло
і варушылася бязгучна, нібы тое поле.

І побач ў затоцы, над вадой
адпачываў гусак з гусыняй
і чарадою добра рослых гусянят,
куслівых і крыклівых, як сабакі.
Яны сюды ішлі як на разбой.
Дарослыя баяліся іх, дзеці.
Аднак татуля тое не прыкмеціў —
ён іх любіў, як ўсё на свеце
і дбаў аб іх, і быў зайздросны, ой!

І вось, наеўшыся рачной смакоты,
відаць, здрамнулі сёння ад спякоты
і толькі часам між сабою глухавата
перадавалі нешта пачаргова,
як бы з маркотай, вінавата.

– Ну, пойдзем, гагаўкі, дахаты!
Патопаем ў парогі родныя!
Там бульбы мятай – поўнае карыта,
і гаспадар з штодзённаю малітвай
вас прывітае радасна-пагодна.



# II

## 1.

Быў ранні поўдзень жыцейка святога.
Жыццё расло і пнулася ўгору
і расцякалася па ўсіх сваіх дарогах,
і калыхалася, куды ні глянь, як мора,
аж дух займала, млела наваколле,
аж сэрца трапяталася жывое,
і жыць ў жыцці хацелася найболей!

На ганак мажна выйшаў тата,
нядзельны ўвесь, увесь сваяцісты.
– Скажы, суседка Маня, што такое,
што мой гусак глядзіць у твой бок,
праз плот ірвецца, неспакойны,
не слухае нікога, бы аглох,
і чыніць негусіны рух і чох.

Ці то не ты прываражыла асабіста
яго сваёй красою або зеллем-лісцем!?
Скажы, скажы, прамілае дзяўчо,
прызнайся, хоць праз плот, Марыся!

2.

“Такі няўдумны, хоць вялікі! –
Пачуўся голас як бы вязаў, ліпаў. –
Маруся доўга будзе клікаць!
Яна ўся свеціцца, яна ўся маладая!
І поўніцы ў яе без ліку!
Табе, табе яе зіхценне, Коля!
Вада сплывае і больш ніколі
Ужо не будзе тая...”

Марыся у вакне, уся глядзіва,
плыла ды ўсплывала ў кветах рдзістых,
і песню-помніцу пляла у светлае ігранне,
аж меркла пространь перад гэтым дзівам.

І кінуцца хацелася ў ваду-вадзіцу,
каб пагасіць агонь прыроды ранняў.

“А ён такі прачысты! Ён – мой свет ядыны!”
Паўсюль самажыццё спявала.



3.

Гусак глядзеў у даль шчымліва
і зрэдку чысціў пух свой лебядзіны.

Як князь у фраку снежна-белым,
які любуецца старым драўляным плотам,
ў праходцы велічнай ён ўсцяж штыкецін
паднятай галавою моўчкі слухаў ноты,
якія прабіваліся сюды праз хмыз збуцвелы.

Хацелася ляцець вышэй, туды ў нятлены,
адкуль ішоў пампройны веў у мілагучным руху.
Гусак, здавалася, вось-вось падымецца да лёту –
Здаўна ў ім жыў трапёт жывога духу.

Аднак уверх яго не падымалі крылы.
І ён хадзіў туды-сюды у вязьні цела,
пакуль Маруся ў садзе песню мела.
А сонца поўдня, нібы лямпа Алядына,
гусыню й гусянят ў збялелае каменне замяніла
і цішынёй празрыстаю усіх накрыла.

І Коля шчыльна абышоў іх з плотам
і зачыніў на засаў іхнія вароты,
каб іх якія злыдні не пакралі.

А сам лавіў лятункавасць красотаў,
якія недзе блізка гнёзды свае мелі.
І, схоплены ў палон тугой-шчаснотай,
ляцеў туды, дзе быў адно жывым палётам.

### 4.

Маруся кветкаю найдзіўнай,
Маруся спеўняю чароўнай
плыла й плыла па садзе-агародзе,
аж шаваліліся нябёсы.

– Кліч, кліч, Маруся, гусака ў свае харомы,
як кліча берагіню да сябе птушыны князь,
захмелены яе палётам з той пары гусінай!
Ты ўся сама – як сонечная вязь,
а я даўно расстаўся з хварасцінай.

Паглянь, якая з намі неба сінь.
Зямля для нас ўся свеціцца расою!
І да цябе ідзе з вяснянаю вясцінай,
і за вясцінай йдзе Сцяпанаў сын,
якога ты пяшчоціла травой-красою
і прытуляла да сябе калісь...

Мая Марусенька, Марысь,
ствары са мною ноч у дзень!
І дзень у ноч ствары са мною!

*9–21.02.2009*



## СВЯТА

Людзі ходзяць без шапкі,
Шапка вісіць у хаце.
Пад шапкай родзіцца тата,
З-пад шапкі выходзіць маці.

Дзеці сядзяць вяночкам
Наўкола роднага спрата.
Па хаце дух крылаты
Носіць з крыкам паночка.

Сцелецца ціхасцю радасць,
Моліцца дзень на ікону.
Ўверх паляцела шапка,
Вышэй царкоўнага звону.

Цячэ-расцякаецца свята,
Парог абмінуўшы, у поле
Ідзе за рукамі таты,
Палоніць усё наваколле.

Спявае жывое каменне,
Вербы, таполі і грэчка.
Каб паглядзець з захаплення
На спеўнасць іхняе спеўні,
На бераг выплыла рэчка
І слухае плёскату долі.

Лугоўе стала абрусам,
Якім накрыліся далі.
Над ім вышываны бусел
З буслiхай з гнязда вылятаді.

*16.07.2012*



* * *

Яблыкі, грушы і слівы
Ляжаць на стале ў карыце,
Такія сонна-шчаслівыя,
Што хоць іх у рот бярыце.

Стол з эпохі барока
Не такія бачыў фрукты.
Хто ўмее, той цешыць вока,
А іншыя – цягнуць рукі.

Сядзяць пры стале дзяўчаты,
Ядзяць залатыя грушы,
А мастак глядзіць вінавата,
Што намаляваў іх бяздушнасць.

*27.08.2012*

* * *

Жнівень – душны, балючы
Пад нерухома-бязмежным небам –
Чымсьці нязбыўным мучыць,
Маніць ледзь чутным малебнам.

Носіцца нешта і просіць,
Матчыным голасам кліча...
А побач сцежка лёсу
Айчыны маёй без айчыны.

І гэтыя ластаўкі ўвысі,
Як душы людзей любімых.
Скажы сабе, пакляніся,
Што хочаш быць разам з імі.

*27.08.2012*



# РЫСУНАК НА ВАДЗЕ

## 1.

Нарадзіла нас маці пад плотам.
(А было нас усіх сямёра –
Сляпых, бяздомных і мокрых).
І там жа карміла... А потым...
А потым – звяруга двуногі
Калі мы больш есці прасілі,
Ачысціў аблогу рупліва
І сцежку зрабіў міласціва
Да нейкай будоўлі-парога.
І там ля бярлогі яго, не іначай,
Наш лёс пачынаўся сабачы.

2.

А потым – як сталі мы бачыць,
Ірваць і кусаць ўсё жывое,
З'явіўся нейкі чужача
і траскай дарогай праз поле
нас вёз. Мы ціха сядзелі
у кошыках доўгіх і скрынях.

А потым нас цёгаў за вушы,
Каб мы агрызаліся смела,
Каб мы паказалі, якія
Ужо з нас сабакі ліхія.
Ды мы верашчалі, як свінні,
Калі лупцуюць іх кіям
Або вымаюць з няшчаснікаў душы.



3.

А потым – наўкол апусцела:
Зніклі сястрычкі, не стала брата.
У кошык залезлі холад, самота,
З'явілася плакаць такая ахвота,
Што ў злосці адчайнай, маркотнай
Куснуў я за палец гада.
А той рассмяяўся – бы рады,
Што жыць я змагу без прынукі,
Не трэба тапіць абармота.
І сунуў хлопчыку ў рукі.

## 4.

А потым – ён нёс ў рукаве кашулі,
Шчаслівы, добры, жвавы.
То гаўкне ў вуха, то туліць,
То ўздрыгне ад сковыту вуліц...
Казаў, што ў ягонай матулі
Сцерагчы я буду паўцарства
І есці каўбаску, і піць лякарства,
Сачыць за кожнай дробнай справай...
А я глядзеў яму ў блізкія вочы
І пазяхаў ад голаду й тугі –
Мільгалі ва ўспамінах раннія вуглы.



## 5.

А потым – ён раптам сцішыў хаду:
З-за плоту нешта ва ўпор зірэла.
“Куды – крычала тое, – цягнеш бяду?!
Каб яно здохла і каб сапрэла!
Назад нясі ці кінь у ваду.
Досыць мне гэткіх салодкіх пілюль!
Каб не ўкралі – штоноч іх пільнуй!..
Во, тут жывуць такія, там, за плотам,
Яны жыццём шчэ як маладыя!
Падкінь сабачку тую ўпотай
Або скажы, што ім – на імяніны...”

### 6.

А потым – пачаўся такі бегавень!
Я ночы ўсе спаў, гуляў цэлы дзень,
Мала брахаў, хоць добра карміліі.
Знакі чытаць навучыўся – у школе,
І разумець іх прамудрую споведзь,
І страх як наводзіць і быць пудзілам.
Ды чым глыбей мяне вучылі
І што я сам паведаў у самоце,
Мне ўсё мацней хацелась лётаць,
Хацелась думаць і рашаць задачы,
Забыцца цалкам на свой лёс сабачы,
За плот хацелася – дзе дыхала свабода!



### 7.

А потым – бачыў больш, чым людзі могуць.
Я нюхам чуў – хто чалавечы,
А хто знутры радзіўся зверам.
Мой голас адкрываў дарогу,
Мой голас быў, як дзверы!
Я ведаў ўжо такія рэчы,
Пра якія не гавораць прама.
І ўсё маўчаў, прыбіты горам,
Спазнаўшы тайніцу свабодна мовіць,
Чакаў, каб спадару жыцця і брамы
Сказаць, чаго ніколі ён не ўцяміць.
А ён не паспяваў – жыў вечным ўчора,
Хоць, як мяне, яго душыла хворасць.

## 8.

А потым – я ўбачыў, што свет пакідае мяне
і ходам сваім нетаропка побач ідзе...

І нешта прасіць у яго – не разумней,
Чым рысунак пісаць на вадзе.
..................................................
..................................................



## 9.

*Аргусу,*
*майму чатырохногаму суразмоўцу.*
*У дзень яго адыходу.*

Жнівень. Над хатай тваёю дзіўная поўня,
А знізу злавесна пучыцца нешта
І сонца, як тое дзіравае рэшата,
Варожа мільгае ў ліпавых кронах,
І жальныя цені стаяць на падворку,
І словы чужыя колюць іголкай,
І цяжка ўжо дыхаць, друг мой ставокі,
І наша жыццё, што пясок у жвіроўні,
Няспынна сыпле Хронас няўтомны.

І мы, жыццюкі, маем тое, што маем:
Неба з зямлёю ва ўсім тут з'яднаныя –
І няма нам ад іх спагады-ратунку.
І не ўцячы ў несмяротным кірунку
З кароткахвіліннага іхняга раю.

Гэта зямля, мой дружа, і гэтае неба,
Апетае ў песнях вялікіх паэтаў,
Робяць над намі свой дослед нікчэмны,
лайдакі.
У свет паслаўшы цябе з аблiччам сабакі,
Чыняць над намі насмешку ліхую.

І ў сваёй нястрымнай вадаверці
Сваю да нас бяздушнасць тую
Значаць салодкім пацалункам смерці.
..............................................
..............................................

І ты адыходзіш, як мы, у Лету,
не мовіўшы ні слова
пра тое апошняе неча,
што ўсё збіраўся мне паведаць...

Выходзіш з кола нашае мовы,
Ахоўнік мой і мой паплечнік.

*2.08.2012*



# ВОСЕНЬ

У засені дрэў рабіна гарыць,
на душы – пявучасць апрочная,
і сэрцы спелага грукат,
а ў вачах прыгаства міражы –
і з гэтым хочацца доўга жыць.

Смерць адзелася ў вохкую ціш
і побач сядзіць ды глядзіць,
паціраючы рукі –
ёй непатрэбныя, нам невідочныя.

А жыццё – як павуціння ніць:
не рвецца і ў неба ляціць
ды ў далях, не гінучы, гіне.

Адзін аднаму непатрэбныя
мы з ёю побач сядзім і моўча
глядзім на сябе, па-скацінаму.

– Любуйся! Ніякай карціны
туды не возьмеш, мой хлопча.

*25–30.09.2010*

* * *

Вечар бяжыць на сустрэчу
Спамінам, марам і песні,
Вяжа мелодыі веснія
З даўнім партрэтам ў люстэрку.

Любіш сядзець у змроку,
І змрок цябе атуляе
Ад крыўд і злога вока,
І ты сапраўдная – тая,

Што там стаіць, у той раме
І колькі гадоў не знікае.

*16.09.2012*



* * *

У Дрэздэн паедзем, Галя!
Сам горад нас запрашае.
Фраўкірхэн стаіць на вакзале,
А побач Бернд і Дана.

На ўсё жыццё маладыя,
Прыгожыя дзеці ад Бога,
Бы вербы над ціхай вадою,
Што хочуць плыць на аблоках.

Яны раздаюць знаёмым
Доўгую радасць ўспамінаў –
Каму ў падарунку Цвінгер,
Каму толькі позірк Мадонны.

А нам – заставацца сам-насам
З красою тутэйшага духу,
Глядзець і бачыць, і слухаць
Ценяў вялікай Тэрасы.

*22.07.2012*

* * *

Цішыня. І снег за вакном
То ляжыць, то йдзе ўсё ізноў.
І сабака дрэмле ля ног
І сцеражэ патайныя праходы дарог.

Навала ідзе за навалай –
Вясны не будзе анідзе.
У цішыні забытае ляжала,
Якое, глянь, і з розуму звядзе.

Крануў рукою Кнігу Іаана,
Нібы саломіну ў бядзе.

*4.04.2013*



* * *

Дарагія мае, бяспраўныя, замучаныя,
пакрыўджаныя лёсам, зняважаныя,
не выслуханыя ля дзвярэй уваходных,
не атуленыя далонямі спагады,
замораныя цяскамі штодзённшчыны,
атручаныя паўсюднай хлуснёю.

Абакрадзеныя, абвінавачаныя, абдураныя,
пастаўленыя ў сітуацыю без выбару,
змушаныя валачыць бядотнае існаванне,
хадзіць у цярновым вянку змагароў,
быць прыкладам евангельскай змірэннасці,
быць потам і соллю сваёй зямлі
і заўсёды служыць падсцілкай камусьці.

Мае дарагія, бязлікія і безназоўныя –
хто выплакаў усе чалавечыя слёзы,
на кім трымаецца кожная ўлада,
хоць яна пагарджае вамі ў сваіх кабінетах –
вы трымаеце усё рыштаванне жыцця
і вам адкрываецца праўда за праўдай.

*16.02.2013*

# ЧАРНАВІКІ

Таленавіты быў ён ад Прыроды – не ад Духа.
Хоць мірсцілася ўсё ж, што гэта, можа, не так яно,
Не да канца. Насіў затоена ў сабе гэткую сваю
Балячку і мучыўся, як шэраговы чалавек,
Якому суджана пацець над кожным словам і радком,
Над кожнаю старонкаю – бо сказы й цэлыя абзацы
Амаль заўжды кладзіся не так, а няведама чаму
Бесталкова разміналіся з выдатнаю,
Як яму здавалася, задумай, і самі сабой,
Хоць не хацеў, зыходзілі на даўно стаптаную
сцяжыну.

Аднак ён зноў і зноў пісаў, услед падманнай славе,
Наперакор, бы хочучы няўмольны й для яго
абмінуць
Закон прыроды. І тут жа ейны творчы імпульс
Вялеў яму перакрэсліваць усё напісанае сёння
І хаваць як найглыбей, у доўгую шуфляду,
Каб і сам не бачыў творчую сваю паразу.

З дня ў дзень раслі перад ім адно чарнавікі.
Перачытваў і здзіўляўся, што гэта ён тварыў.
Злаваў на свет увесь, на асяроддзе, сяброкоў.
Гадзінамі сядзеў, замкнёны у сабе самім,



Курыў, лавіў сябе на тым, што кепска думае
Пра тых, каму гэтая ралля давалася лягчэй
Або зусім без мусу. О, нябёсы!

„Бываюць жа святлом напоўненыя душы!” – думаў.
Ніяк дагнаць не мог ні тых, хто так высока лётаў,
Ні тых, хто йшоў паперадзе яго. Вяртаўся ў думках
Да крыніц, да першых слоў, давераных паперы,
Да першых, мабыць, лёсаносных загалоўкаў.
І шкадаваў, бывала, што ступіў на гэты стромкі
шлях.
Унутрана ён быў гнілы – як даўно яму сказалі,
Нечакана, і сам ён хутка тое зразумеў, калі
Тапіў у сажалцы суседскага ката... Любіў ён зло,
Любіў з самага маленства рабіць жывому боль.
І смакаваць любіў яе, нутраную насалоду,
Калі іграла ў ім сляпая самавольнасць.
Цягнула гэтым грэць сваё хілае нутро.

Як за саломінку схапіўся – паланіла кволая надзея,
Што само Мастацтва, ад вякоў якому пакланяліся
Усе народы, яго магутнай моцы, векавечнай
прыгажосці,
Нібыта ратавальны круг, вынясе яго наверх,
Ачысціць з слабасцяў душы і цела.
О, непадкупная Прырода! Што дадзена
Табой – то ад пачатку свету й да канца.

„Як тое можа быць!? Чаму не ён – абраннік неба?!"
І гэтае пытанне калацілася здаўна ў мазгах
І, як прысуд, вярэдзіла душу, ягоны змрочны свет
Да такой ступені, што ў тыя моманты адчаю
Гатовы быў ён моцартаў усіх забіць, не толькі
словам,
Дый кожнага, хто стане на яго дарозе.
„Няўжо сыплецца з мяне, як з ліпаў і бярозаў
Сухое лісце слоў, марнае насенне?!"

Раз-пораз паўтараў сабе на суцяшэнне,
Што рукапісы ягоныя таксама ж не згараць.
І асцярожна будзе нехта, можа, іх ў цішы гартаць,
Шукаючы жывога тхнення духа.

І з кожным годам рос у ім зламысны геній
І, як магніт, сцягаў нікчэмнікаў
Усіх масцей. І ён быў іх парукай.

*7.07.2013*



* * *

Калі сонца сыходзіла з дахаў,
Тата сядаў курыць. Паклаўшы
Нагу на нагу, здаецца, тады глядзеў
У свае маладыя гады, у нямоўлены свет
І нешта важыў усё на дакладнай вазе.

„Ну што ж, – аднойчы сказаў, – і мы
Яшчэ раз зможам пайсці па вадзе.
Збудуем свой дом. І з вокан сваіх
Будзем на ўвесь гэты дзіўны свет глядзець".

І ўсім, хто поруч быў з ім,
Салодкім здаўся бацькавы дым.

*6.08.2013*

* * *

Не ведаем – стаецца што́ без нашага ўдзелу,
Без волі нашай. Часта так сабе сказаўшы слоўка,
Здаецца, мімаходзь, у лёгкую хвіліну,
Здзіўляемся, калі і след даўно той думкі згінуў,
Як слова наша раптам стала целам –
І нібыта з вады Гаргона з'явіцца якая ці Афіна.

Хто ж так няўзнак гартае нашага жыцця старонкі?
Няўжо і там, за межамі ўсіх чалавечых лёсаў,
Сядзіць няведамы сусветны гакер,
Зусім празрысты, цалкам невідочны звонку,
І ўсё майструе у праграмах боскіх правакатар,
Змушае летуценіць, жыць без толку
Ды слоў баяцца – тых, пасланых
наўздагон нябёсам.

*22.08.2013*



* * *

Які быў ратунак-шчасце –
На сена ў клуні ўпасці,
Забыцца, што свет існуе ў свеце
І пра сябе нічога не ведаць.

Забегчы ў ціхасць сена –
Нібыта плюхнуцца ў мора,
Дзе ўсе не гавора гавораць
І дзе мяне самога найменей.

І дзе не заходзяцца плачам.
Расквасіўшы нос на каменнях,
Схаваўшыся ў водар таемны,
Каб боль мяне болей не бачыў.

*26.08.2013*

* * *

У Мінск уехаць – што ў навелу
Безгеройную ўвайсці
Ды йсці па свеце Пталамея.

У гэтым горадзе-героі
Ужо не хочацца расці
Ні паўнаце, ні цэльнасці, ні мове,
Ні дрэвам, птушкам, ні ідэям.

І як бы тут людзей няма,
Бо ўсіх жывых глытае млын-турма.

У цэнтры – нібы ў маўзалеі.

*23.03.2015*



* * *

На стале ні вады, ні ежы.
Птушына-раслінная ціша
Ды яблык і нож, які яго разрэжа.
І ад рукі – сцежачка верша
Бяжыць наўздагон, адзінай і першай.

*23.03.2015*

* * *

Перада мною свет панылы.
Прыгожы толькі ў сваёй злосці.
Плыве бы на вароніх крылах
І бы варона каркае чагосьці.

І радасці на свеце не ўбачыць,
І састарэлася жыццё на свеце:
Зноў ў вайну гуляюць дзеці,
Зноў будуць удовамі маці.

*3.03.2015*



* * *

Чэрвень мінае, чырвань і чырвы
І глохнуць святы, і будняў аблогі,
Мройнасць находзіць, памрока, няшчырасць,
Нерваў нярадасць, палёт у бяскрайнасць.

О, каб убачыць нябачнае бачанне Бога –
Як смерць сама ад смерці сваёй памірае!

*3.03.2015*

# МУЗЕЙ

Бар-рэстаран у падвале музея,
Ціха, утульна, як за пазухай Бога –
Знаёмыя людзі, свае, фарысеі
Бяззуба гавораць сваёю гаворкай.

Часам увойдзе пан нейкі з ляхаў,
Азвецца па-нашаму як бы ў дадатак,
І часам успыхне букетам пахаў
З кіслай капустай талерка аладкаў.

Госці сядзяць за сталом, бы з надзеяй,
П'юць і ядзяць з любоўю і верай,
Хоць яны – экспанаты,
якім не выйсці за дзверы,
А заўсёдна чакаць у падвале музейным.

*21.03.2015*



# ДВОЕ

Слата на двары, а хораша жыць.
Сонца схавалася ў цела
і свеціць з душы.

Няма для нас слоў выпадковых.
Усё, што скажам сабе – нібы дзіўная пража
Штодзень у новыя ўзоры нас вяжа.

Хто ж мы такія?
Рэмбрант і Саскія!

– Які ты цудоўна няўмелы!
– Якая ты ўсё невагома!

*31.10.2013*

## НЕМАГЧЫМАСЦЬ

Калі дзень увесь – на дзіва!
І паўсюль у вочы коле
З летняй навальніцы
Рассыпанае сонечнае шкліва,

Скінуць хочацца няволю –
І ляцець кудысь на крылах,
Дзе, мабыць, расце шчаслівасць,
Дзе красуе поўня існавання.

Але ў гэтай вольніцы шчымлівай
азарэннем ніцым
Не ўлавіць вось тое прасвятленне-йгранне,
Што адвечна знекуль кліча...

Хоць успыхне, тут жа гасне ў дыме.

*6.11.2013*



## ВАРШАВА

Ёкнула ў сэрцы на Замкавым пляцу. Варшава
Юначых гадоў маіх наймілейшых
Любіла заходнюю моду, шык і забавы,
І як бы сама пісала нам патрыятычныя вершы.

Яна раздавала усім свае краявіды
І сцэны плачаў даўніх – яркіх і гнеўных,
Пейзажы трыумфу ні то Галіяфа, ні то Давіда,
Ахутаных ціс-мажорнай музыкай Шапэна.

Яна любіла пад навесам цішыні касцельнай,
Схіліўшы галаву ў медытацыях, маліцца
Перад чорнаю мадоннаю віленскай –
Вады каб скіфы не змуцілі ў Вісле.

Варшава любіла ад першай сустрэчы.
І я быў па вушы ў яе закаханы.

Бывай, дарагая! І ёкнула ў сэрцы...
Анёлы мелі для нас розныя планы.

*11.11.2013*

# ПЕРАД СНОМ

Шчаслівая пара незваротнага расстання –
Калі ні з таго, ні з сяго само пад'едзе падарожжа,
Ці то шыкоўнаю карэтай, ці хуткай дапамогай,
Або проста невідочным тарантасам-ўсюдыходам,
І ніхто не будзе мераць часу і прасторы,
І знікнуць блізкія й далёкія пейзажы,
Якія кожны дзень віталіся са мной здалёку
І, як знаёмца, мабыць, помніць будуць надаўжэй.

Бо як жа можа быць іначай? Бо для чаго
Яны раслі ўва мне, а я – у іх?
Ці ж не былі замешаны мы на той жа гліне?
Ці ж не дух адзіны ўдыхнуты ў нас?

Калі шчаслівая пара... калі замоўкне час...
Калі незваротнае пачнецца...
Што сказаць мне вам на такое нашае расстанне?
Якія словы адшукаць? І дзе? Пачаць з чаго?
Ад шкадавання дзён і вечна маладога твару маці?
Радасці сустрэч з хвілінамі чужога існавання?
Той кнігі, у якой няма ні пачатку, ні канца
І якую геніяльны аўтар кожны дзень памалу піша,
І сама яна гартаецца-чытаецца штодзень?
А ці тое шкадаванне будзе нешта значыць для мяне?



І для вас ці будзе мець хоць нейкае значэнне
Хоць нейкі сэнс – для тых, хто застаецца жыць
І жыве зусім асеплены найблізкаю красою сонца,
Сам не ведаючы, што жыве бязмэтна
І плыве дзіравай лодкаю, як нясе яго самацячэнне...

Сказаць: Бывайце?! Да сустрэчы?! –
Амаль нічога не сказаць. Падумаюць,
Што вось які упэўнены ў сабе: што нехта
Ад жывых плануе з ім, там ужо, спатканне.
А нічога не сказаць – палічаць пыхаю, мажліва.

Парадкуюць ужо хатнія нажыткі й рэчы:
Вартавых майго невялікага свету,
Памятлівых і цярплівых сведкаў,
Якіх раней ні рукамі, ні вачамі не заўважалі.
І яны, безабаронныя, знікаюць пакрыёму.

Няўжо ім дадзена ўсё ведаць?..
Няўжо ім дадзена ўсё бачыць?..
Дзеля чаго ім дадзена гэтая звышздольнасць?
Чаму жывыя так баяцца іх!?

О Божа, дай мне розум наастатак
І спакой душэўны, каб прыняць я мог,
Што змяніць не маю сілы.

Не хачу паспець на тое падарожжа,
Калі шукаць ў сабе самім
Дзеля яго мне трэба самаапраўданне...

Імглу люблю, калі ваўнянай ціхаценню
Яна палоніць, як вясна вясну,
Зялёнай радасцю бязмэтнага ляцення.
Пара ўжо ссунуцца ў няўменне
І самы час зваліцца ў абамленне,
У мару сну, ухма русну, умо расну...

*12.12.2013–15.01.2014*



## МЕТАМАРФОЗА

Мой даўні прыяцель і ягамосць,
калі прыйшоў я да яго ў госці,
замест расчуліцца ў таварыскай размове,
смярдзючыну вывалак з каморы
і пра знаёмых гаў ды гаў...

“Ах вось!.., -- падумаў я, --
дык ён сабакам стаў!”

На ім рыжэла поўсць!

*21.01.2014*

* * *

Ён як бы сніў і явіў крыху.
Такое з ім здаўна было:
Здавалася – ляцеў
 у іншую эпоху,
адкуль ён родам быў
і дзе сябе знайшоў.

Хоць дзе той першы свет
яго, ў якім шукаць кірунку?
Паўсюль адно агонь, віхуры, мора.
Каб даляцець туды,
                не адно спатрэбіцца крыло!
Што ад таго жыцця,
                апроч жыцця зямнога,
яму далося ў падарунак?
Ізноў той самы час – цягучы, фараонаў!

Змяніліся над ім даўно усе далёкія сузор'і,
Але душа яго ў сваёй душы
                засталася душою.

*21.01.2014*



* * *

Па ўсяму дому буйна цвіла цішыня.
Хто на луг пайшоў, а хто – ў поле.
У вакне вецярок фіранку гайдаў
І згукі нейкія нёс, як штось дарагое.

Мамін прыстолік – нібыта куфар дарожны:
Грэбень, касынка, флакон і плечыкі,
І свечка, і крыжык, які пільнуе і лечыць
Усіх нас жывых – надзеіць, трывожыць.

А побач кнігі старыя ды ваза з вадою,
Калода карт – як свет невядомы...
І пахла дзявоча-маміным ляўкоем
У той цішыні, што сама была велічным домам.

*23.01.2014*

# ДЗЕЦІ І НЯНЯ

Дзеці і вечнасць, іх сівавалосая няня,
Схаваўшыся ў свежых ценях падворка,
Як кураняты, ціліўкалі мілагучнай музёлкай,
Каб адказаць на яе прамудрыя пытанні.

На кожным кроку няня не пераставала пілікаць:
Чаму сухі пясок стаецца хутка пылам?
Чаму не лётаюць без птушак толькі крылы? –
.................................................................................
.................................................................................
І вечна маўчала.
І адказы прымала ўсе без заліку.

*14.02.2014*



# ПЫЛ

Пыл, пры самым лёгкім руху рукі,
На падваконніку падымаўся невысока
І, зрабіўшы неспакойныя кругі,
Зноў ціхамірна асядаў ўнізе вокан.

Куды яму спяшацца – ён жа дома!
Ляжыць і часам варухнецца хмельнай хмарай,
Сухой, малочна-цьмянаю і невагомай,
Бы старац, мяккай сівізною валадарыць.

З якога шоўку ўвесь сатканы мелас
Распаду ў прастату, за якою – хімія магілы,
Дзе няма складанасці цудоўнае душы і цела
І помыслаў высокіх, а толькі пыл пакрыты
пылам?

Але рука ізноў пайшла ўверх, як батута
дырыжора,
І пыльны хор узвіўся піянісіма-мажорна...
О, не! Пакуль жыву я, чую, бачу й мару,
Не прах і пыл, а я тут сею-гаспадару.

*24–26.02.2014*

# КОРЧ

Ідзе па лузе корч,
Стагоддзямі ідзе.
І хоць сляпы і моўч,
Вялікі ён відзень.

Па полі корч паўзе
Яшчэ адно стагоддзе.
І ноч адзета ў дзень
За ім ліхтарняй ходзіць.

І корч у лес залез,
Патраціўшы карэнне.
І тут жа з'еў яго жалез
Як непатрэбнае найменне.

*7.03.2014*



# ПІСЬМО

Ляжыць пісьмо ад дарагой –
Не словы, а фіялкі,
І не туга, а голас палкі,
Нябёсны звон над галавой.
.............................................
Ні дарагой няма, ні дарагога...
А пісьмо ляжыць прад Богам,
Доказам таго, што варта жыць было,
Хоць і жыць давалася нямнога.

*13.03.2014*

* * *

О, як чароўна за Зямлі
усходзіць велічнае сонца!
І лёгка на душы, калі
душы адкрыецца бясконцасць,
калі тваёй душы
на сонцы сыплюцца іскрынкі,
калі так хораша ў цішы
і хочацца яе кранаць, як скрыпку.

І светлы дух у вышыні
адзіны сцеле шлях абоім –
у тым свеце на Зямлі,
дзе віяланчэль жыве з габоем.

*21.11.2010*



# ВЯСНА

Рухомасць свежа-зялёная
Маніць бязмэтным хістаннем,
Радасць глядзіць бязмоўная
Сваімі адкрытымі далямі.

Прадаўнія сцежкі лёсу,
Як ноты з чужой партытуры
Ці як нататкі натуры
Нехта кранае узнёсла.

Гадзіны кветкамі ў полі
Вітаюць сумна-прыгожа
Усіх, хто ідзе па дарозе
І тых, каго не ўбачаць ніколі.

*17.03.2014*

* * *

Як не мае
Прамільгнулі гады.
Спазнілася шчасце,
Заснула дзесь радасць.

Няпэўнасць прыйшла,
Нахлынула горыч,
А побач гуляюць
З нядоляю доля.

І хораша стала
На іх быць узбоччы.
Яны як не бачаць,
Душы не марочаць.

Гады маладыя
Прайшлі дзесь дарогай.
Жыву бы ў палоне
Мінору зямнога.

*3.04.2014*



## БАЧЫЦЬ СВЕТ

Свет наш – родная зямля!
Поле, лес, рака, дарога,
Па якой вядзе нябачная рука
І стаяць на варце абярогі.

Бачыць свет, жывы і каляровы,
Як мы з мамай сцежкаю ідзём –
Нам адсюль ваколіц дах відзён,
Краявіды нашай, чалавечай долі.

Разлівае дзень маўклівае святло,
А нябёсы – чысціню трывогі...
Смерці анідзе ніякай не было,
А была ў жыцці шырокая дарога –
Пад адкрытым небам
ў свеце Пталамея.

*25.03.2014*

# НАС МАЛА

Нас мала. Ды гэта не значыць,
Што мы анічога не варты.
Нас крыўдзяць. І гэта мы бачым.
Ды ў гэтым змаганні, не йначай,
Мацнее наш дух непераможна-упарты.

Мы не згубіліся ў дзеях.
За намі сцягі слаўных вояў.
Над намі іх неба гісторыі.
Той шлях і цяпер нас вядзе
З веку ў век. І з намі надзея.

Бойцеся нас, бо нас мала!
І мы сваё маем джала.
Мацней за кожную зброю
Слова наша. Слова!
Яно, як тая Пагоня,
Імчыцца ўсё ў бой. І нас бароніць.

*1.04.2014*



* * *

Хмяліць і цвярозіць
Сонная слодыч,
Таго, што расце
І цвіце без мовы.

Ах, як захапіла
Стыхійная хваля!
І, як ашчэпак які,
Нясе ў свае далі.

Ад берагоў айчыны,
Ад сваіх людзеяў
Тугі кіламетры,
Чаканне нас дзеліць.

Гляджу на сябе я
Бы на здрайцу, чужога,
Што ў дзіравай лодцы
Плыве па нейкім моры.

Ці ўчуе мой голас
Той мараплавец,
Ці зможа на бераг
Сябе пераправіць?

*4.04.2014*

* * *

Бывае зрэдзь такі ажурны дзень –
Калі падлетніцца лянiва вецер
І здрэмле неба на вадзе,
І поўніцца светласцю зялёнай
Душа, што йдзе па родным свеце
І чуе, як гучыць ў паўтонах
Свет жывы, ёй даўным-даўно знаёмы.

*12.04.2014*



# ПАДАРОЖЖА

На небе яркі Юпітэр. Свеціць утомна.
Мы з Галяй зноў у дарозе
Між Брэстам Літоўскім і домам.
Абое сядзім і глядзім у трывозе.

Здаецца, нехта адтуль нас прыкмеціў,
І, злоўлены ім, мы адчайна сядзім
Пад зоркім наглядам на гэтым свеце,
Колькі дзён з ім адзін на адзін.
Цягнік хоць імчыцца сваёю дарогай,
Здаецца, вечнасць стаім, а не едзем...
О, гэта дарога, Юпітэр, трывога!
І харашынь, ад якой аж душа халадзее.

*13.04.2014*

## СПЯЧАЯ

Галя спіць. І рукі спяць –
Геніяльныя умельцы!
Рэчы ў хаце цішыняць,
Толькі б’ецца сэрца.

Галя ў сне. Ці ў сне душа? –
Велічнае нешта,
Чым так людзі даражаць
Ад сівых прадвечняў.

Спіць... Ды ў сне прарочым
Зноў ідзе па строме
Як без рук і моўча
Ад дому да дому.
................................
Гэты сямейны малюнак
Дорыш нашай самоце.
А добры анёл пільнуе,
Каб ты была птушкай ў палёце.

*5.05.2014*



* * *

Расцвілі каштаны тысячамі свечак,
Бэз расцвіў ліловым скрыкам,
Быццам кнігу тоўстую раскрыў
перада мною нехта
І пальцам стаў ў мае старонкі тыкаць.

“Ці не тваім жыццём пояцца гэтыя каштаны?
Ці не табою жывіцца ліловы бэз?
Бо чаму ж твае бачыны ўсё часцей і неназваныя,
І шмат якія з іх
ужо адзін суцэльна нечытэльны тэкст?!”

*9.11.2010*

# КАМЕНЬЧЫКІ

Драпідзіха – маці Платона, унучка Салона –
пасланая сюды аднекуль найвялікшым конам,
ведала ж усё пра звычкі сына,
таму й сядзела, у чаканні, чынна
паміж паўднёвае спякоты ў ценю прахалоды,
і адной рукою ўладна вецер варушыла,
які, прыйшоўшы з мора, мяккі і салёны,
ляжаў цяпер ля ног яе, зусім лагодны,
а праваю – усё каменьчыкі лічыла,
якіх было за трыццаць болей.
“О, каб магла я бараніць Сакрата”, –
падумала. І зноў, як толькі ёй ставала часу,
трыгон свой звольна пачынала кратаць...

*9.11.2010*



# СВОЙСКІ МАЛЮНАК

Сабака ланцужны, казёл барадаты,
Рыцарскі певень і тры авечкі
Малююць пейзаж з бярозай у колерах мяты
І сена падножнага, якое ім слалі на свята,
А з боку бярозы ўмалююць палоску грэчкі.

Па праўдзе толькі авечкі малююць зацята –
Як грэчку топча казёл барадаты,
Як брэша на пеўня сабака ланцужны
І як авечкі кормяцца дружна
На паплаўку, дзе сена смакоцце і мяты.

Малюнак гатовы, устаўлены ў раму.
Кожны ж бачыць – стаіць ён пры браме!
Ды ўсе, хто ні гляне, смяюцца да слёзаў:
Няма ў краявідзе сабакі, казла, ні бярозы,
Ні пеўня, ні мяты, ні сена няма ў гэтай раме,
Ні нават хмары. А ёсць – зацёкі ды плямы.

*13.05.2014*

## НОВЫ СВЕТ

Што я вам, мае дзеці?!
Вы – несмяротныя ж, калі
вас за руку маці вядзе
па жыццёвым моры па свеце
у ахове бяскрайняй любові.

Хто я вам, мае дарагія?!
Вы – новай праўды спадары,
а не якія хцівыя госці!
Вас найбліжэй, відаць, пасадзілі
пачатку боскае прыгажосці.

І кім табе я, свеце новы?!
Я – спаўна смяротная істота,
што дзень-жыццё аддаў размове...

Мною мысліш, бачу, ўпотай
аб сабе ў вянку лаўровым –
за правіны ўсе мае і выпадковасць!

*8–11.07.2014*



## ФАЎН

Летнім днём хлапчуком бягу на раку –
Радасць бяжыць, аж дух займае!
Светлае нешта наўкол цягне мяне за руку
Туды, дзе грэецца дзень на левым баку,
Дзе сіняя ціш срэбра ў ваду налівае,
Дзе нешта жывое, нязнанае плешча ў вадзе,
Коціць змяіныя хвалькі на бераг пясчаны,
Дзе ў яснасці цёплай гудзе авадзень
І з музыкі гэтай павук на суку сетку прадзе,
Каб цені жывыя лавіць у сачок даматканы...

Час лёгма Фаўнам даўно там ляжыць.
Арахны дзе пражы пачатак, а дзе працяг?!

Я памёр бы ў свеце такім, каб жыў!
А не жыў – бо быў толькі сведкам жыцця.

*11.07.2014*

# СОН

Дзіўны мне прысніўся сон –
Ён біў у сэрца вастрыём кінжала,
А ты стаяла нада мной
І Евангелле ў руках перабірала.

І я прачнуўся... у далёкае жыццё.
Да чаго ён – што было? Ці будзе?
– Палагодней з імі будзь, Арцём!
Яны шчэ ж дзеці, але й – людзі...

І хляснула заполкай па спіне:
– Чаго зрываешся, як апантаны!..
– Не трэба, Волька, ён характарам па мне!
А гэта для мужчыны не загана.

*1.08.2014*



# БАЙРАН У ГРЭЦЫІ

Які ён малады, які ў ім буйны гнеў!
І як жыццём сваім не даражыць!
Як з вышыні з пагардаю глядзіць
На цэлы свет людскі, жанчын. І на мяне!

Няхай сабе ён піша Дон Жуана,
Няхай і дзень і ноч што хоч ён піша!
На што мяне, ўстрывожаную, кліча
Цямнейшая за змрок яго бунтарная душа!?

Ён мне ж ніхто, як кожны! –
Прасцяк ці самы найвялікі пан,
Як, зрэшты, ўсё жывое Альбіёна!..

Я чую пахавальны звон –
Як пад яго нячутныя паўторы
Ужо імкнецца ён у Місалунгі,
Свой цёмны плашч накінуўшы на плечы.

У цёплай гавані жывое вечна мора,
Адзетае ў маркотна-сіні грукат,
Апошнім будзе анямелым сведкам
Адной-адзінай нашае сустрэчы.

Спяшы, гардзец, ляці пад шаблю турка...

*7.03.2009*

# ЦЕНІ

Кант чытае Платона.
“Няўжо аб чым піша – магчыма...”

На бераг сухі набягае хваля.
Дзверы скрыпяць. А вобраз Фэдона
То нікне, то зноў мільгае
Сярод абзацаў, перад вачыма.

Глядзіць, як пурпурнае сонца нагбом
Ягоным частуецца белым вінoм.
Святло, ап’янелае, льецца на дно.
Ён п’е цішыню ў самотні знямелай.

“Ці можна выліць святло з віна?
Дзе рэчы ў сабе, а дзе толькі з’явы?”

А на сцяне варушацца ценяў цені –
Ці то ягоных ідэй, ці блізкага мора,
Па якім ціха ішлі два вадаплавы,
Цягнучы цені свае з глыбіняў на хвалі.

*11.08.2014*



# АЎРАМ І СЫН

Маладосць, калісь бязмежны акіян,
Жыве яшчэ ўва мне – бы васьміног.
О, каб тады я правіць ёю мог!

Цяпер яна ў чужых руках,
У чужых абдымках яе цела.
І дзень і ноч на плаху падае яно,
Над ім страхлівы, саламяны дах.

І мы адзін другому супрацьлежны –
Аўрам і сын, якому бацька горла рэжа.

*30.08.2014*

* * *

Хто ён, той чалавек
Жаночага роду,
Які нясе сваё цела,
Як галаву Іаана?

Душа глядзіць з іконы
На свет той бездапаможны,
Ў якім міраносіцам-жонам
Галаву насіць гэтак можна.

*5.11.2014*



* * *

Мора падыдзе пад хату
і скажа: “Сухія Рэчы,
ва ўсім вы ўсе вінаваты,
бо ў вас жыве агнеча.

Жыць да скону сконаў
на свеце гэтым будуць Вадніцы.
Гасіце ў сабе полымя мовы,
Святое ў сабе гасіце!”

Мора прыйшло ўпотай
і кажа: “Душы і сэрца
перад навалам-патопам
таксама пазбыцца трэба!
І трэба змірыцца
не бачыць высокага неба!”

*25.11.2014*

# МАРНАЯ ПРОЗА

Па вуліцы Мальмэда ў Беластоку
Ходзіць мужчына ў вопратцы
Старога чалавека-юнака.

Даўно ён тутака ўсім знаёмы.
І здзіўляецца, што ў жывых яго няма,
І новы свет наскрозь не той –
Дамы не тыя, рэчы, твары, словы.

Ды ходзіць ён па вуліцы сваёй, Купецкай:
То ўніз спускаецца, як бы
шукаючы жывой вады,
то падымаецца ізноў уверх
да брамы юдэнрату,
дзе дасюль вісіць ягонае
на лютаўскім марозе цела...

Яму пад сорак і яго шукае
Безупынна Ефраім Бараш.

Юнак жывы, калі ніхто яго не бачыць...
Ён выжыў! Ды цяпер не ведае,
Як яму ізноў памерці.

*26.11.2014*



* * *

Ластаўкі з грудак балота
Лепяць гняздзечка між бэлькай
І стромкай сцяною, дзе суха, бяспечна
І цень не пускае гарачага лета.

Майстэрска зроблена работа –
Ў палёце, віртуозна, мелькам!
І крылатых некалькі істотак
Хутка выляціць лавіць бясконцасць.

Вось такая радасць ажывае
Кожнай цёплаю вясною.
Быццам нехта ўсцяж перада мною
Нешта дарагое то рассцеле,
То ізноў схавае.

*27.11. 2014*

* * *

Здарыцца нешта. Тут або ў вечным.
У вочы глядзі знаёмым рэчам.
І калі ты шчыра глядзіш –
Убачыш шлях свой млечны,
Як сцелецца ён па зямлі.

Здарыцца ж нешта. І станецца цудам.
У вочы глядзі знаёмым людзям.
І калі ты шчыра глядзіш –
Такім патрэбным, адзіным будзеш
Ім у жыцці, і тым, што ўзвыш.

*4.12.2014*



* * *

Штовечара сузор'е Арыёна
Глядзіць ў маё асенняе вакно
І, відаць, усё гартае даты і пісьмёны
З тысячаў мінулых год,
Бы шукаючы ў цячэнні часу дно.

Жухла на двары і ў хаце.
Ноч не спіць і ты не спіш –
Чыстае душы распяцце!
Засталося завяшчанне напісаць,
Пакуль нясеш свой крыж.

*4.12.2014*

# МАЎКЛІВАЯ РАДАСЦЬ

Тата хадзіў на рынак
Глядзець на адкрытыя твары.
Любіў ён жывыя партрэты –
Насычаны поўняй іскрынак,
У сонечных бліках і хмарных,
Праўдай жыццёвай сагрэтых.

І як мастак жывапісу,
Чысціў словы ад бруду,
Каб перадаць трапятанне
Ад знойдзенага цуду,
Або, пахілены нізу,
З намі дзяліўся маўчаннем.

*20.12.2014*



* * *

Ах, якая то была сустрэча!
Адна ў міжпланетных прасторах:
Тайніцу сваю адкрыла і трапеча –
На ўсё жыццё жывое нешта дорыць!

О, якая дзіўная матуля!
Толькі раз так горача пацалавала.
Без яе згубіў я радасць лепятальнае размовы.
І любоўных калыханняў першае сустрэчы
Ў памяці так мала.

*20.12.2014*

* * *

Іду на чыстую рэчку,
Дзе мы былі калісь шчаслівы,
Дзе ўсе былі роўна сваімі
Усцяж звілістай рэчкі.

Зайду ў ліловае мора,
Па грудзі, па шыю, па вочы,
Каб стацца відушчым, прарочым
На ўсё жыццёвае мора.

Падышоў да зялёнага дрэва,
Дзе хвост сарокі трасецца,
Як сонца ўзышло, то месца
Яму не было пад дрэвам.

Пайду туды, дзе ў камень
Схаваны час чакае часу,
Каб выйсці дарослым адразу
І свет схаваць у камень.

Ішоў у той час вялікі,
Які называецца лёсам,
Які зямлі і нябёсам
Чужы на сцежцы бязлікай.



Іду нярухам па свеце,
Як камень бяжыць да крыніцы,
Жывой каб вадой асвяжыцца,
Жывым каб быць на свеце.

*7.01.2015*

# ЗАБЫТАЕ

У бібліятэцы –
З творамі паэтаў-віртуозаў
І вясковых лірнікаў,
З тамамі выдатных майстроў прозы
І звычайных парабкаў літаратуры,
З кнігамі скараспелых даследаванняў
І з фаліянтамі Платона і Стагірыты –

Адна кніжыца лірычных хваляванняў,
Даўно забытых светам,
Так блізкіх мне,
Быццам яны, усё жывыя,
Толькі ўчора напісаныя мною.

*21.01.2015*



* * *

У гэтай змарнелай хаціне,
Дзе ў вокнах цвілі алоэсы,
А мак на стале з карзіны
Ад сталых рухаў бярвення
Сыпаўся нехаця ў шчыліны крэсел
Бы там знайшоў сабе збавенне,
Стаяла руская печ, а на печы,
Ад якой ішла цеплыня па хаце,
Пад дзяружкаю сохла жыта.
І на ім здаровае хлапеча
Парыў косці ды спяваў аб нечым,
Ці спаў і праз сон пяяў дасыта.

І раптам увайшла з двара дзяўчына,
Можа, жонка, а можа сяброўка
І, згледзеўшы на печы мужчыну,
Ціха завесіла фіраначкі на вокнах,
Каб чужыя вочы не глядзелі
На далейшыя ў хаце той падзеі.

А нехта хадзіў па пакоях,
Сам нябачны для вока,
Нібыта ішоў па свеце сваім адзіным,
Дзе зноў, бы ў каўчэгу Ноя,
Жывыя істоты зышліся па двое,
Каб ім са свету не згінуць.

*3.02.2015*

## ВЯРТАННЕ

Я маладая, я – ў цвіценні,
Я прыгажэю з кожным днём,
Ва мне гарыць агонь агнём,
Начныя спеюць летуценні.

Іду прасветлена, жывая,
Згартаючы красу ў букет,
Каб пераліць усю сябе у свет

І цвердзь калышацца зямная.
І смерць хаваецца за небакраем,
Калі вяртаюся ў рай!



## ВЯЧЭРНЯЕ

Захад павіс на дрэвах
Кармінавай хусткай махання.
Пахне чабор, а верас
Цішынёй над рачною таньвай.

Ёсць нейкая звышная мера
У гэтай сусветнай карціне –
Ў жароўні навечна сваціла гіне
І нараджаюцца вечна радасць і вера.

* * *

Дзень – залачоная птушка –
Выспеліў яблык чырвоны
Для дзяўчат найпрыгожых.

Вечар – зялёнае дрэва –
Вырасціў грушу надзеі
Для маладосці п’янай.

Ноч – чарадзейнае яйка –
Ляжыць на гасцінцы-дарозе
Чакае бабу і дзеда.



* * *

Сабака ляжаў сабакай ля ног.
Я ж думаў пра нашую вечнасць –
Што час не ўсюды аднолькава лёг,
Што ёсць у ім бок нутраны і знешні,
Што ёсць у ім равы і даліны,
І горныя пікі, і, мабыць, вокны і дзверы...

А мы ўсё ідзём сляпым лабірынтам
У пошуках сонечных дзён, кахання і веры –
Не ў змозе адолець бязмерную цемрадзь.

* * *

Пытанне з залы:
– Калі б з’явіўся Максім Багдановіч,
А ён з’явіцца вось-вось павінен,
пра што вы яго запыталі б?

– Скажыце, спадар вялікага ўраджаю,
каторая цяпер у паэзіі гадзіна?..



* * *

*Нашым здраднікам*
*беларушчыны*

О, вы патомкі несмяротнага Іюды,
А можа быць і таго нічтожэ –
Няхай грахі адпушчаны вам будуць,
Калі на тое будзе воля Божа.

Але я, калі б і быў адзін на свеце,
Буду вінаваціць вас да скону
За тое, што гвалтуеце, знішчаеце, ірвеце
Сваёй маці вопратку, пасаг і мову.

* * *

Жылка ў Празе. На Карлавым мосце,
У лёгкай гарачцы глядзіць на Влтаву.
"А ў Макашах, – падумаў, – напэўна косяць атаву.
А тут толькі вецер калыша агонь вадарасляў".

Цягнула айчына, як тая вада ў вадаверці.
"У Вільні станоўчыя змены. І каб ў Макашах..."
Рыбарам ён галавою кіўнуў з пашанай.
"Еду дамоў. На радзіме лягчэй будзе нават
памерці".



* * *

Насця ў труне, а труна на падворку.
Не пад апекай ікон –
стаіць пад небам адкрытым!

Так збор пратэстантаў суровых
Праводзіць сваю сястронку.

Ах Божа ж мой, Божа!
Не тыя тут людзі, не тая гаворка!
А дзе ж табе свечкі, духоўны спамін
І ахоўнасць малітвы?!

... Рады, што час развітання,
што труна – як распяцце,
што зямнога – фінал...

Насця прад светам апошнім
уся як жывая –
светла-прасветлены твар...

Божа мой, Божа!
А вам за што яе вінаваціць?!
І хто ведаць з нас можа,
ці фінал гэты а ці напэўна фінал?!

* * *

– Скажыце, то трэба ўжо нам
плаціць і за сонца –
за ягонае цяпло,
за святло ягонае?
– А калі заслоняць хмары?..
– А калі аб ім толькі мараць?..
– А калі за гарызонт яно ляжа,
колькі каштаваць нам будзе
тады ягонае зарыва?..

– Валадар адзінай дзяржавы
ўжо лічыць. І зараз вам адкажа.



* * *

я адыходжу... Ніхто не пытае,
чаму нічога з сабой не бяру
і якой доўгай будзе мая дарога?

хацеў бы сказаць: хутка вярнуся,
але ж скажу: усё залежыць ад Бога...

*09.01.2015*

## НАПАСЛЯ

А гаварыць і не было ужо аб чым...
Скасілі траву, ссушылі ахвярна –
Каб дзень не прапаў ім намарна,
Яшчэ напіліся крынічнай вады,
Цялеснасць абмылі ды ўсякую парнасць...
А што казаць, калі зноў толькі боль і шчым.

Ішлі па шасцівых сваіх аблогах
Мужчыны, а з боку, ў іх ценю, жанчына –
З вялікага жалю й прадоння вачыма,
Нядрэмнай красы, даражэй дарагога –
Глядзелі ўдаль, дзе таксама йшлі трое...
Маўчалі – бо што сказаць ім пра тое!?

Па залатым ішлі сячэнні дня,
Адтуль, дзе сонца хавалася ў мурогі.
Ніякіх сцежак, нават следу ад дарогі
Туды, дзе харашынь плыла,
 якой вачыма не абняць...
Яна – у ценю іх уся. Як напасля...
Але сказаць так не сказалі анічога.

*10.08.2015*



* * *

Дрэва, якое не мусіць хадзіць,
Дрэва, якое не мусіць смяяцца,
І хоць ад болю яму не ўцячы
І ад смерці не адцурацца –
Бярэ ў абдымкі сонца яно
і, каб жыць, п’е
 жыватворны агонь.

*4–8.10.2015*

* * *

Акно глядзіць на вуліцу, ў мігценне светлаты.
З сявенькай сонца за спіной ідзе святы.
І ты з'явілася адтуль, як стражнік кнігі кніг,
Пра вечнае жыццё чытаеш мне услых
І пра масты туды гаворыш у працяг.

А вечнасць вечна пазірае у маё акно
І бачыць ўсё наноў, ўсё тое, што было –
Як пры стале сядзім святочнага жыцця
І бачым вечнасці адзін і той жа міг.

*10–13.01.2016*



* * *

– Чаму я жыццю нярады?
– Чаму я такі нешчаслівы? –
Пытаю бліжэйшае Праўды.

А яна, як заўжды, баязліва
Суне цукерку ды разам фігу –
Вось і ўся яе мудрая кніга.

"Слодыч жыцця, а ці кукіш –
Сам выбраў...", – не мовячы кажа.

Калі ж ужо выбраў,
Праўду сказаць той Праўды не змусіш:
Маўчыць, як бы зубы ёй выбіў!
Або ўкінуў у рот кошык рыбы.

*17–18.02.2016*

# У БЕЛЬСКУ

Маці Божая раніцай нябёснай,
Светла ўсхваляванай, нечым устрывожанай,
Выйшла з царквы Святое Пакровы
І безыменнай сцежкай над ровам,
Калдобістай і яшчэ бязлюднай, роснай,
Ішла ў касцёл Міласэрнасці Божай,
Каб там паслухаць малітвы тварэнне
Ды зноў у свой дом ісці па карэннях,
Якое паспела на слядах Святое Дзевы
Прарасці жывымі парасткамі дрэваў.

І дасюль вандруе Маці Божая з Пакровам
Між святой царквою і блізкім касцёлам.

*18.02.2015*



# ВАКЗАЛ

Скрынка вакзала з хвалістым дахам,
Як цацка вялікага Магога,
Падымаецца нялётным птахам
Над жалезнаю дарогай...

Гул ішоў штодзённых прыліваў:
Карціны плылі дзявочых макаў.
Здавалася, нехта з прыезджых клікаў
Мяне – і як бы смяяўся і плакаў...

Я і дагэтуль стаю ля брамы
Вакзала таго, які ўжо не бачыць,
Не чуе і не махае рукамі
На развітанне ці з падзякай за ўдзячнасць.

Цяпер там лахмоцце спакою
І безнадзейная лірыка стомы.
А між рэек – палын з палынёю
Стаяць, да семафораў падобныя.

*8.03.2016*

* * *

Я ведаю мала, ледзь-ледзь –
І ўсё з першай старонкі жыцця.
А ёсць жа напэўна нейкі працяг...
Яго, аднак, не даецца займець.

Прабач за ўсё, як можаш, мне:
Якім я ёсць – я не такі:
На паверхні – як вір ракі,
А па праўдзе – камень на дне...

Дык што там, мілая, ў цябе, ўгары?
Якая сцішанасць душы рассвятляе вонкі?
О, каб можна мне ўсплыць з тае вады
І перабрацца на нязнаную старонку.

*22–27.03.2016*



* * *

Вечар люляе сваю цішыню,
Сіні змрок, кудзелю надзеі,
З якой ён прадзе свае спадзевы
І ловіць ў палёце ластавак спамінаў.

У зарыве пагаслага, далёкага агню
Кашу́ атаву жураўліным клінам.
Так хораша між зор вачам і ўвушшу!
Так лёгка йсці між траў з касою адзвінелай!

Дзе правы бок жыцця, а дзе бок левы,
Каню ўсё роўна. Ён – тупае дахаты.
І я за ім, наступаючы яму на пяткі.
Ён у зямлю загледжаны, а я – ў нябёсныя залевы.

*1.04.2016*

# СОН

Па горадзе навобмацкі іду:
Якое даўкае ўтрапенне!
Здаецца, ў прыгаршчах нясу ваду
Напаіць пасохлае каменне.

А навокал людзі спяць,
Ці ляжаць забітымі?
Мне не ведаць і не знаць,
І шапчу малітву я.

Не каменне бачу пад нагамі, а пясок,
Не ваду нясу, а попел.
Сам сябе не пазнаю –
Хто ён і адкуль той хлопец?

Бачу – людзі ўсе ўстаюць,
Жыць спяшаюцца нанова
І паціху зноў пяюць
Матчынае слова.

*1.04–23.04.2016*



* * *

Я прыйшоў ў гэты свет невядома якою дарогай,
З нязнаным мне планам жыцця, бы сляпы і глухі,
Без меры ўчынкаў сваіх і без вагі –
А ці напэўна такі быў замысел Бога?

Канчаюцца беды мае і трывогі.
Памылкі ўсе сталіся нечаканым лёсам маім.
І нічога нельга паправіць ні ўверсе, ні на зямлі –
А ці напэўна так было тое задумана Богам?

Мне дадзена бачыць няшмат, але многа
Красы чалавечай, шчадротаў душы...
Хоць самотны я быў – множыў дабро,
Прыгажосць... і, мабыць, грашыў –
Бо такія маглі быць намеры Бога!?

*5.04.2016*

* * *

Ізноў на свеце кіпень сварны
І карацей зноў дзень за днём.
Жыццё – бы той цягнік таварны,
Які бяжыць парожні часу наўздагон…

І я, і я ў гэтым вінаваты –
Калі народ крычаў: “Яго распні!”,
Відаць, стаяў я на баку Варавы,
Распятага пакінуўшы адным.

Ізноў каторы год за годам хмарны –
І я таксама ў гэтым вінаваты,
Што той цягнік бяжыць намарна –
Пусты, прывідны і растратны.

*2.05.2016*



* * *

Як вясна зацвіце,
Прыходзіць айцец
І з барады скідае пажухлае лісце.

Хто ж гэта ён,
Прыбраўшыся ў клён,
Шукае сцежку, каб выйсці
І блукае сярод дрэў і раслін?

Айцец хоча ўсё ведаць:
Ці тут застаўся такі сам адзін,
Ці ўнукамі – продкам іх, дзедам –
Усё шчэ ідзе ён па родным свеце?

*14.06.2016*

* * *

Хаджу пад сінім небам
Па зялёным лузе дня
У прасторы залатога лета
Без пачатку і без дна.

Хараство само сабой апета
Да сваіх глыбіняў –
І вадой, і песняй,
Спевам срэбным ручая,
Што бяжыць далінай
Між вандроўнага трысця.

Свеціцца і гасне
Радасцю чаканне,
Голас той, што мяне заве.

Мілатой, як праслам,
Мы з табой павязаны,
Як краса з тугою у траве.

*14.06.2016*



* * *

Сярод магіл, адзетых у бетон,
І поўнач ёсць і поўны дзень гадзін,
Калі сам Бог сюды сыходзіць сам, адзін
І мёртвым свой кладзе зямны паклон.

Мая мама і тата мой,
Злучыўшы целы свае з целам зямлі,
Глядзяць, як зноў па сцежцы зямной
Ідуць яны – як ішлі маладымі калісь...

Магілы прыкрыты плітою наглуха.
І мы не бачым з'яўлення Яго, ні іх –

Малітву сказаўшы, сабраўшыся з духам,
З сабою нясём домысел толькі і слых.

*24.10.2016*

* * *

Тым, хто ранкам п’е гарбату,
За чытаннем беглым кнігі,
Час бяжыць па цыферблаце,
Як дзіця шчаслівае.

За вакном юначы вецер
Гаворыць былінна:
“З вамі я хацеў бы з’есці,
Але не тыя няспелыя слівы...”

Свет у кнізе балаганны:
Смех дарослых, плачуць дзеці.
“Ах, на што душою п’еце
З тою гаркатою чысты ранак?

І жыццё імчыцца мігам –
У мінулым хутка ўсе патонем
І заціхне шчабятлівасць кнігі...
Дык куды дарогу вашу цягнуць коні?”

*10.01–17.02.2017*



* * *

Восень рыжую кашулю
На кусты накінула рабіны –
На шчаслівых і бядуляў,
Вінаватых і нявінных.

Восень на мае ўзлезла рукі,
І паўзе як па сваіх ужо галінах,
І на іх яна і піша і друкуе
Нешта ж неразборлівае почыркам ялінак.

Восень, ах, душа ў цябе паэта!
Хоць на ўсё яшчэ мае рукі здольныя, восень:
Яны – мае два анёлы светлыя,
Што жыццё трымаюць, якое мне засталося.

*3–5.03.2017*

## ПЛАЧ

Крываногая дарога
Ад зямлі да высяў
Перапоўнена трывогай.

І ўзбочная драбіна,
Па якой ўздымаўся Якаў, –
То з'яўляецца, то гіне...

Так Эдэм прысніўся,
у якім Бог плакаў.

*11.03.2017*



* * *

А мы ўжо й не крычым –
Гаворыць вялікая марнасць,
І ўслых бязмоўна маўчым:
бо
Кнігі не тыя ў кнігарні,
На сцэне не тыя героі
І на „іконах" не тыя трое...

*19.11.2015*

* * *

У Беластоку колькі доўгіх дзён не быў,
А прыехаў – як бы увайшоў на чужы падворак:
Замест аблокаў горка-млосны дым
Ідэй атрутных і з'едлівых гаворак.

Сябры даўно раз'ехаліся хто куды –
Адны памерлі, іншыя ўжо ў краіне неграў,
А мне, каб жыць, гаворыць, набяры у рот вады,
Таму што гаварыць табе, кажуць, нельга...

Не святкуйце перамогу нада мною, персы:
Не ўсе загінулі бо абаронцы Тэрмапілаў!
Не Герастраты апошнія прысуды вершаць,
Хоць вы ім служыце, дугой сагнуўшы спіны.

*20–23.04.2017*



* * *

Дзеці любяць жыццё да слёз.
І чысціня жыцця іхняя ў поўні,
Як бы кожнае з іх – Хрыстос!
І кожнае крылатамоўнае!

Але свет не хоча такой душы
І заб'е яе на парозе дома,
Будзь яна нават светам з вяршынь
Або сама для сябе яшчэ невядомай.

*4.07.2017*

* * *

А ў лесе, далёка за лесам,
дзе спіць неасвоены Камень,
у шчасным сабе Дараганаве
трава паўсюль заблакітнела
і людзі не адрозніваюць
нябёсных высяў ад зямелькі.

У сваёй штодзённай вандроўцы
па спаконных сцяжынах
заходзяць яны за свае аблокі
і там шукаюць ўсё тое адзінае,
чаго не мелі, чаго не згубілі.

Ды ўсё ідучы па сініх высях,
няўпэўнены, дзе ж іхняе поле,
сыходзяць неспадзявана дадому
з другога боку ўваходу
ў сваю вечную долю.

*15–19.08.2017*



* * *

Кастрычнік шукае мая –
Радня разбрылася па свеце:
хто злёг у зямлю, хто ў высях лятае,
хто не помніць, як ён завецца.

Шукае кастрычнік траўня,
каб раз адзін з ім сустрэцца,
тым маладым вечна й спраўным,
хто луг зялёны сцеле над рэчкай.

Кастрычнік траўня шукае –
і каб злавіць яго хоць дзе вачыма,
то майскім цяплом дні абмаіць,
то расставіць сецць павуціння.

*1.03.2018*

* * *

Туга, трывожная туга,
туга-мяцеліца,
то набяжыць з крыкамі “ура!”,
то мяккай ласкай сцелецца,
займае ўсе куткі дабра
і ўжо нічога і нідзе майго няма.
Аж не верыцца!
І раптам сонца уварвецца
прасветлай завірухай...

Спраўляйся толькі з духам –
так хочацца ізноўку жыць,
дабро рабіць, любіць, тужыць,
не быць ніколі марным пухам.

А дні і месяцы ляцяць...
Цябе няма ніколі дома,
ты – ў цэнтрусе жыцця!
А я – увесь адна трывога,
пасумус і туга
па шчасці невядомым...

Ах, мілая мая! Ага!

*9–12.08.2018*



* * *

Даўнія беды ноч перабірае на пальцах
то правай, то левай рукі
ды, перабраўшы, ізноў адпачатку
цягнецца той жа перагук-
пералік, і мне няраз ізноў здаецца,
што ноч паўтарае закляцце,
каб зняць Хрыста з распяцця...

А я побач – маўклівы, без рук
і бы стражнік які, стаю даастатка,
а між намі праходзяць вякі...

Ноч-ноч, адпусці мяне,
свайго вінавайцу
на бераг ракі.

*12.08.2018*

# НАШАЕ ЖЫЦЦЁ

О, як незваротна яно!
Ды ўсё незваротней!

Куды мы бяжым
І ад чаго тыя ўцёкі?

З якіх ападаем вышыняў,
Да якіх імкнемся аблокаў?

Часцей і часцей немагчыма
Вярнуцца назад ні выйсці наперад.

І кожны дзень на белы свет
Глядзім апошнімі вачыма.

Якую крохкасць мы
Ў сабе саміх калышам?!.
І што ў нас – жыццё, Яно?..

Як бы з разбітага начыння
Пад ногі выліваецца віно...

*8–28.08.2018*



* * *

Упусцім дождж на поле
І скажам сонцу, каб грэла.
А потым дамо сабе волю
Для думак, сэрца і цела.

А потым з'явяцца ў свеце
З чыстай свабоды і мараў
Нашы вялікія дзеці
І вецер народзяць з хмараў.

І ўзяўшы буру ў абдымкі,
І шчасце сваё адчуўшы,
Будзем жыць без стрымаў,
Як недзе жывуць нашыя душы.

*14.09.2018*

* * *

Круглаярая дзявоха,
закрынічанае шчасце,
шчыраўсмешная самохаць,
я хачу цябе ўкрасці.

Я люблю з табою месяц –
поўня любіць нашы сплеценыя цені,
калыхлівыя іх пешчы,
быццам спевы клёна з вішняй.

Ноч няўцямна нам зайздросціць
працірае вочы –
але нам не трэба лішні
мы на свяце нашай прыгажосці.

*17.03.2015*



* * *

Як дзеці раздзетыя, кусалі губы
І клалі цалункі на святыя месцы,
І шукалі прагна свае згубы,
Аж стамлёныя гаслі рытмы пешчаў.

О, якое гэта чарадзейства!
Якая пругкасць неназвалін,
Калі ад ног праз сэрца да міндалін
Плылі бязвольным рухам анапеста.

А збоку глядзела люстэрка крыніцы.
Цяпер жа, паспакайнеўшы, яно ўспамінала,
Як тых двое прыйшло жыццём наталіцца
І, напіўшыся ўволю, пазасыналі.

І ляжалі, як пасля бою штандары.

*16–19.09.2018*

* * *

Сее восень асеннюю сейву.
І злятае з нябёс вышыня.
Бы нежывыя, паадзінокія дрэвы
З ветрам імкнуць ў неспакментную даль.

Дождж ідзе, як гурт пілігрымаў,
З малітвай на вуснах за супакой –
І зноў расставанне, і болей ўспамінаў,
І спавіваецца сэрца халоднай тугой.

О павідокі светлай краіны,
Вы не раз ратавалі мяне!
І вобраз ваш льецца цёплым праменнем
У душу маю, як ціхі лек-напамін –

Магчыма, адтуль, дзе свет для вачэй закрыты,
Адкуль, мабыць, сам Вышні глядзіць на нас
Праз шыбу імглы, якой ахутаны мы.

*16–19.09.2018*



* * *

Вы зусім маладыя, яшчэ як дзеці,
Ды адно да другога вас цягне штосьці
Неўсвядомленае, і вы к сабе ідзеце –
У імя Дабра, Праўды і Прыгажосці.

Вы ўдваіх у спелым жыце ляжыце,
Вам паўната дадзена шчасця гэтага.
І краса ваша стаіць у зеніце –
У імя Сонца, Вады і Паветра.

За вамі слаўная гісторыя народа
І будучыня глядзіць вашымі вачыма.
І вы трымаеце яе ў сваіх далонях –
У імя Мовы-народа і Маці-айчыны.

Тое стаецца не для святочных дзеяў,
Не на паказ, а для дарагой і дарагога,
Якія жывуць Даверам і Любоўю-Надзеяй –
У імя Айца і Сына, і Духа Святога!

*28.09.2018*

* * *

Пад небам айчыны вялікай
між Прыродай і Богам
стаю амаль цалкам бязлікі
на канцы чалавечай дарогі...

І жыццё здаецца адзіным удыхам,
і выдыхам нейкай адзінай трывогі.



* * *

Вясну прадаюць жанчыны –
ні то цёплых кветаў букеты,
ні то сланечнікі твараў сваіх.
Яны жыва-моўчкі спяваюць вачыма
і пахучыя ткуць андрамеды малітв.

У халадку праставатым сонца нямее,
свежа-цёплая благадаць ад зямлі...
А яны прадаюць і п’янеюць,
робяць тое, што ад маленства ўмеюць –
дораць сваю дабрыню, прыгажосць і мазалі.
І сум нятленны вісіць павуціннем над светам.

Чаго я чакаю, калі ўсё вядома:
і тут найвыразней гавораць без мовы...

Скверам п’яніцаў гурт, бы сівых аблокаў,
згубіўшы назвы паспалітых рэчаў,
плыве эскадрыляй да сівенькіх мадонаў.
І бязвокія вокны вачэй іх глядзяць
у сустрэтыя вокны,
дзе яшчэ цепліцца іхняя вечнасць.

І ў кожным тут жыццё нейкае б’ецца.
Ідзе нешта святое адусюль напаверх,
такія даверліва-чыстыя душы тыя і сэрцы –
каб не той, згорнуты ў жаль, які рэхам
аднекуль нясецца, ні то плач, ні то смех.

* * *

О, як няшчадна падзеі ляцяць,
вяжучы нашыя дні ў снапы гадоў!
А мы з табой на дарозе жыцця
яшчэ ж не сустрэлі адзін аднаго,
каб разам – шчаслівым – маўчаць.

Як, якою дарогай ідзём,
якою сцяжынаю-следам?..

О, як прыгожа вечна ісці па прамой
да вышыняў нябёсных, да мэтаў зямных,
як той Дантэ ці Адысей-нястомны Уліс!
І бачыць усё і ведаць напэўна,
што нас не чакае нідзе перадых
ні ў часе злічальным, ні дзе вечнасці міг.

А кім ты была да свайго нараджэння?..
Калі, калі ж стрэнемся на сваім вяку?
І выйдзем насустрач у целах якіх?
...............................................................
Не, не ўсё дазваляе выявіць мова.
Яна – што ў рукі схапіць раку.



* * *

Усё ідзе да лепшага –
як да аленіхі бяжыцьален,
як заўтра прыйдзе новы дзень,
і як жыццё ператвараецца ў вольны верш.

Да лепшага, найлепшага ідзем –
як спеюць яблыкі ў садзе,
як дзеці ходзяць па вадзе
і падымаюць прыгажосць сваім бязладдзем.

Хоць на свет кладуцца цені
і страляюць да аленяў
і сам Ірад у бранежылеце
ды ў руцэ з карабінам...

Аднак вясна ўжо, а потым лета
і вецер праветрыць застойнік кабміна.
....................................................

І да найлепшага, што ў свеце ёсць, ідзём –
дзе сыплюць соль на раны,
дзе правяць бал бараны,
дзе іх чакае прэзідэнцкі дом.

Да светлага вядуць яны авечак –
навокал сіні сум і мёртвая радня...
“Гаворыце, што шмат чаго для вас няма!?
Ды будзе, будзе! Перад вамі ж вечнасць!”

*22.01.2019*

# НАДСЛОЎЕ

*Маім віцебскім сябрам*

І дзень – ледзь-ледзь...
І ноч – не хоча не смылець...

Баляць бальніцы, эпікрызы
Свае баляць і чужаніцы

Шчыміць мінулае і даляглядзы –
Якіх даўно няма, якіх не будзе

Пякуць календары і даты
Баляць законы і загады

Баляць мас-медыі, наблісты
І апладысменты ім і свісты

Баляць ўсе веды і няўменні
Пра лёс шчаслівы як шчымяць трызненні

Баляць няздзейсненыя планы
Баляць пройгрышы дзяржавы

Баляць раскладзеныя карты
Тэатры, гульні, крыкі малпаў



Баляць псалмы і оды, і малітвы
Да крохкае радзімы, Беларусі-Літвы...

Стаю адкрыты перад светам і святымі:
Ачысце мя Словамі і Знакамі сваімі
Каб мог зысці я, рушыць з таго месца
Дзе боль баліць болем ўсё балесней.

* * *

Я быў з травы і плюскату вады
і з першых безыменных подыхаў вясны,
і з мройных напеваў і сноў маладых.
За мною беглі мае сляды.

Вясною быў я вязам-сасною,
трымаў вянцы над маладою хатай,
калі яна ў сукенцы махраватай
паілася напоем сырадою.

На паплавах я быў чмяліным духам,
трымаў крыніцы, бы свае далоні,
да гэтых рук ішлі павольна коні
і зноў ад іх жыццё хадзіла кругам.

Я быў світанкам пачуцця і долі,
і цвіў і поўз ў святло святое,
дзе полымя жыцця зялёнае
радніла танец-музыку і слова з полем.

А сонца бачыла ў праменнях славы,
як хлопчык па калена ў травах
бяжыць захоплены вясною
і ловіць матыля, які ў той час і быў жа мною.

*17.08.2019*



* * *

люблю цёплы цень
як хразантэміць вецер
а ўсцяж цішыні бяроз
леніцца дзень-маладзік
як на бераг ракі
выходзяць рыбіны дзеці
і з лугавых каберцаў
збіраюць сонца ў радно

а наводдаль армія жыта
ўзброена вольнаю воляй
ідзе незаўважна полем
памыўшы ногі ў вадзіцы,
каб узяць у палон краявіды
і хваласпеў наваколля
і хлебам няжытніх насыціць.

*4.04.21*

* * *

Нібыта летні вецер, нібы вечар,
Нібыта сум утойны, нібы радасць –
Адзін на беразе, я кветкамі уквечан,
І мяне сястрычкі вучаць падаць.

І мама кажа: "А зямля, глядзі, як чалавеку блізка.
Яна для ўсіх нас як пярына тая!
Ад падзення станеш дужы, будзеш як паніска,
І жыць з табой камусьці – адна радасць залатая!"

Быццам успаміны, быццам птушак пералёты,
Быццам мёду прысмак, быццам чханне ад махоркі –
"Я хачу на саначках спусціцца з горкі,
І ніхто каб не шукаў мяне ў сумётах"...

Нібыта перапёлкі плач, як бы йдзе квактуха,
Як бы я стары, быццам я – дзіця без мамы,
Быццам сіла лета, як бы поўня духу,
Нібыта цягне ўвысь – і безнадзейна падаеш у травы.

Нібыта неба нізка. Рукі цягнеш, а яно – высока,
І ветрыка накцюрн – бы агонь гарача-сіні
Ў далонях я нясу, як учарашні спеў птушыны...
І душу грэе радасць, што ты бачыш трэцім вокам



Нібыта дзень той й сёння там – юначы і прыгожы.
І духу не стае, каб глянуць яму ў вочы!
Быццам зноў сястрыцы кідаюць мяне ў стог мурожны,
І я зноў лячу ў той свет – малады і мне прыгожы.

*17.09.2019–20.02.2020*

# МУЗЕЙОН

Дагарэла цяпло верасня –
задымелі кастрычніка звалы,
палёў альбомы песенныя
нішчэлі ў ветраных далях.

І толькі ў залах шкляных музея
з шматлікімі пераходамі
штохвілінна з'яўляліся творы
з усё новымі сюжэтамі-дзеямі...

Вось там – які ж гэта геній боскі,
якою тварыў ён сілай бясконцай,
каб такі дзень на захадзе сонца,
што канчаўся над гэтаю вёскай,
так намаляваць, як ніхто, праўдзіва?..

Ды нечакана, бы з адкрытага неба,
нейкі мужык, лоб падняўшы высока,
увайшоў у зал са сваім тварэннем:
"Вечар і конь з торбай аброку", –
І на выставе згасла сонца глыбока.

І празвінела малітва сапранам,
быццам цягнулі пэндзлем па сценах,
быццам сляпы піянісіма-п'яна
зноў маляваў ночы няўлоўнае цела, –
каб твор з галярэі вынесці досвіткам-рана.

*1.10.2019*



* * *

Дыхнула холадам надвор'е ,
Нібы пайшоў сняжок і трэск-мароз,
як бы ў адным сабралася іх трое
і кожны сам сабе пацíху рос.

З'явілася завейчыха-адліга
і грыбасей прайшоў, і зноў зіма.
«Аяй, – крычалі людзі, – што за ліха!
Няроўна дзеіць Бог, аднак!"

Ўсяго таго было так многа,
што я пайшоў дадому нацянькі,
таму што нештавата чухаліся дзве рукі
і ногі не хацелі слухацца дарогі.

"І вы мне кажаце, што вы старыя,
І годзікаў вам, кажаце, не менш за сто,
Натоптаны, нажытыя і ледзь жывыя?..
Не так, – гаворыце – як у кішэнях тыя?
Ім добра! Што ім, дзецям! Марадзёры ж во".

І я спыніўся прысаромлены, няміла,
Здумеканы такой знаходкаю да слёз
Раптам нас трое йшло гэтаю часінай
І кожны з нас перажываў свой лёс.

Няўжо ва ўсім, што ўнізе й нада мною
вяршыць свой лад хаос – разваліны адны?
Нат ногі-старцы й рукі-пестуны
нясуць свой цяжкі крыж над юнай галавой?

*27.02–8.03.2020*



* * *

А музыкант іграе на гармоні,
загледжаны ў вячэрнія нябёсы,
заслуханы ў ног топанне-крунтосы
і як у ім сляза з даўнінай гамоняць.

І музыкант заслуханы ў гармонік,
то ўлева цягне мех, то назад яго пускае
і доўгую хвіліну зноў сабе ён мроіць,
як калісь было – і ён каханы быў і закаханы.

А музыка сама жыла у ім і не згасала,
у гэтым ціхім, нетаропкім чалавеку –
ў якім краса была і ніць спамінаў дарагая
і нязбытнае – чым жыццё палоніць нас
аднекуль.

*24–25.03.2020*

# ДЗІЧКА

Сонца скоса то глядзела,
то хавалася за хмары
і чырвонаю кудзеляй
наганяла страх намарна.

Потым зноўку, адпачыўшы,
сыпала ў прыпол ім грушы
з польнай грушы, што, магчыма,
і не дзікаю была, не раўнадушнай...

І паўсюль, як кінуць вокам,
толькі поле-жыта, жыта-поле...
Як разбеглася жыццё навокал!
Колькі вольнасці, раздолля!

Назбіраўшы груш, стаялі
ў цішыні палёў рухомых,
як бы ў вечным гуле-хвалі...
Не хацелася ісці дадому.

*3–6.05–8.08.2020*



* * *

Якая асіметрыя паўсюль:
як сэрца пераціснутае шчымам
у свеце бездакорнае красы,
і неба сінь і рухомыя лясы,
ляжаць на возеры расы,
а яснасці – не болей на вярсту.

Нібыта недзе ёсць жывыя –
адвернешся – у хаце пуста
і нікога за дзвярыма.
Здаецца, падаеш ў чужыя мроі –
Нібыта ў свеце Гойі.

О, каб было калі спакойным тое мора
і каб па ім прайсці сухой нагою...

*8.08.2020–16.07.2021*

* * *

не пішуцца оды Жыццю
не ствараюцца гімны Богу
не ткуцца малітвы Хрысту

замоўкла ідэя Раю
замылена тэма Дабра
заглохлі матывы Лёсу

знявечаны першы Рым
ніводнай няма Візантыі
маўклівыя сэнсы Нябёсаў

як лёгка ўсім існаваць
перад няўхільным сыходам

жыцця яшчэ пару хвілін.
і да таго, што табою было,
не дакінеш і не адымеш нічога

*23.07–10.08.2020*



* * *

“Калі цябе будуць пужаць,
страшыць, лякаць у змроку
страхлівай савой, ваўкалакам,
шэрхным шорганнем крокаў –
не бойся, не трэба плакаць –
ідзі на прамень, які я трымаю ў руках.

Калі разгубішся ў чужых краях
сярод натоўпу ля вежы вавілонскай,
і здасца, што ты зусім бездапаможны,
і дзень не ўзышоў вышэй за хмары,
і што заснула музыка ў прасторах –
не падай духам, не ўсё так марна –
на агеньчык ідзі, ён свеціцца ў маіх руках”...

Няпэўнага дня, між густога лісця
зноў праменьчык заззяў – і не гас,
не знікаў, не шукаў сабе выйсця,
у дарогу не клікаў, як тое было не раз,
як бы сам сябе трымаў у руках,
каб не сказаць, што было б, калі б жа было,
калі б жыццё было бяскрайнім...

– Насця, я бачу тваё святло... І я тут,
і рады, што ты побач са мною. Такая...

*7–9.08.2020*

* * *

Як добра быць падлеткам –
навокал міласць лета,
як у гасцёўні свету.

І неба без аблокаў,
і беды ўсе далёка –
жыццё перад табою!

Бяжыш у існаванне,
калышашся ў хаценнях,
яшчэ не бачыш ценяў.

І раптам – сцены, сцены,
паўсюль і пакрыёму,
свядомасці невядомыя.

І на знаёмай дарозе,
дзе быў, здавалася ж, госцем –
як сам не свой ты ягамосцем.

Здалёку чуеш, як птушкі-дзеці
у кронах свету зноў шчабечуць –
а свайго кароткага лета
яны й не прыкмецяць...

*16.08–18.08.2020*



* * *

Ты – маладая!
І смерць твая, як ты,
яшчэ маладая.
І ёй – быць дзяўчынай,
жанчынай, а, можа, бабуляй!
Або Эўрыдыкай ці заўсёднай Гаргонай.
І ёй – існаваць пры табе,
з табой, у табе –

Любі жыццё ў сабе,
людзей любі
і свет любі, святло ў сябе –
як святыя падарункі!

Не зрабі неразважлівы крок,
не падумай думку ліхую,
не спатыкніся!
Бо яна – побач!
Заўжды пры табе,
з табой,
у табе.
І любіць цябе сваёй,
нетутэйшай і неадчэпнай,
любоўю.

Твая перамога – што ты маладая!
І ў сваёй любові
можаш стаць несмяротнай!

І смерць твая пры табе
захоча быць такой жа –
бо куды ёй дзецца!

*11.09.2020*



## ЭСКІЗ

Ізноў вясна расла і мазурку побач йгралі і цвілі
дзяўчаты без панчох на доўгіх вуліцах шаўковых.
Насустрач йшлі букеты хлапчукоў раздзетых
з красатосцяй сваіх спеўных лёсаў.

У тым палоне ўсе былі навокал блізка.
І маўчанне іхняе слухала сваё маўчанне,
аб чым яно без слоў маўчала годы ў даспяванні –
аб непаўторным калыханні закаханых.

Вясну пілі з уздыхам, ўжо бы па-жаночы,
у дзень такі акрылена-святочны.
І цень ад радасцяў высокіх
фіранку варушыў у спальні адзінокай.

*15.09.2020*

* * *

Жывецца як бы ў свеце, нібы за яго мяжою,
за якім ужо не ходзяць людзі –
і далёкая адна душа ідзе за мною...

О, нарысуй мяне, калі рука рысуе,
і ўспомні ўслых мяне, калі не помніш,
і назаві забытыя трыкроць імёны.

І прачытай балючыя назовы,
якія, як каменьчыкі, ляжаць у жмені,
і адгукнуцца зноў жывыя дзеясловы.

*кастрычнік 2020*



# СТАЖАРЫ

1

Калі бацькі пакінулі свой дом –
зацішны наш куток, абжытае гняздо,
святое месца пад бусліным небам,
Ах, Божа мой, мянялася наўкол усё...

Калі ўехалі ў свет даўно вядомай
Вавілонскай вежы –
свет мноства і жуды-бязмежжа,
дарог у нікуды, чужых, варожых,
у змрочныя пячоры, петлі, норы,
з якіх і выхад – лабірынтаў змора.
Я стаў амаль сабе чужы...

2

*Пабудзь яшчэ пры мне, мой часе даражоны,*
*і пасядзі з бутэлькай малака*
*і лустай мамінага хлеба...*

*Над вязам нашым чуліся павевы-скрыкі*
*маіх радасцей нeпералётных, невялікіх.*

3

Як цені ад'езду ляглі, так і ляжалі
на вачах, руках і на душы.
Былі шчэ дома, але кожны жыў ўжо ўзварушна –

Паверх усіх задумна тата
сказаў углыб, нібыта скрушна:
– Ні аглядацца не трэба, ні плакаць!
Над намі ж будуць нашыя Стажары...

А мне здалося, што ён кажа
пра спачуванне нам і тую жаласць,
якою, калі хто ад'язджаў куды адсюль,
як родных шкадавалі.
І тое слёзнае усім нам стаў я паўтараць:
*Над намі жаліцца будуць сотнямі жаляў...* –
нібыта я рады.

4

У новым свеце
я не ўзлюбіў сябе.
У новым свеце –
быў адужаны маной
і жыў, адлюдак, не сваім грахом.
А цела маладое, як страла ў палёце,
напамінала кожны дзень:
а ў чым твая віна,
што аддаеш яго на згін
у пройме светлых юных дзён?

Здавалася, што высахлі усе крыніцы лёсу,
паўсюль развалiны, ашчэпкі долі
і непарушнае маўчанне высяў.



5

І голас быў, як быццам мой, знявольны:
*а шлях твой бегчы будзе ў сотнях*
*жаляў і заўсёды праз таросы.*

*І лягчэй не будзе аніколі!*
*Спадзявайся на сябе, юнача... і маліся!*

6

О, непаўторны цуд жыцця!
Зямлі дарунак і нябёсаў!
Яно – як сонны верш лірычны!

Ці то метафараў у ім – хоць адбаўляй,
Ці то адзін такі балючы клічнік?

*7–17.12.2020–11.01.2021*

# ПРЫВІДЫ

Як нехадою амега йдзе...
нешумліва-гаючым павевам,
нібыта дзень выходзіць з ранку
шчылінамі вуліц задуменных –
і гарадскіх не чутно хваласпеваў,
даўно замоўклі весяў калыханкі.

Не хіляцца песні да песняў
І хараство не ляціць да дабра,
час як дым гусцее вакол, нібыта імгла,
і гронкі болю – чырвонай чарэшняй.

Хутка кончыцца непрацяглы працяг
і масты будуць разведзены...

Хоць здаецца, што ты ўсё яшчэ
ў сярэдзіне жыцця, бы ў гасцях,
і лёсу твайго плюскае яшчэ
толькі пачатак сярэдзіны.

*22.12.2020*



* * *

Раней было ціха і добра, і светла –
Хадзілі з вядром са студні набраць жывой вады,
Пад вечар чаромха варыла салодка-церпкі дым,
Нячутна мяняліся ў кужаль дні на двары ў гады.

У нашай ваколіцы пахла свежым жыццём,
Жыццё пачыналася ў нашай ваколіцы.
Куды ні глянь, паводкай яно цякло вакол,
Даткні зямлі рукой – і тут жа яно і народзіцца.

Сцежкай ідзем па вечна прыгожым жыцці,
Топчам яго і ў абдымкі ягоныя падаем,
І ссем няшчадна грудзі яго ўпрыцых,
Шчаслівыя дзеці, жыццю дараванаму радыя.

Аднак да донца вылюбіць нам яго немагчыма –
Яно як сфінкс глядзіць на нашае жыццё
І бачыць нас жа толькі нашымі ўлюбёнымі вачыма,
Але ў свае абдымкі цёплыя бярэ нас
усяго на пару дзён.

*2–4.04.2021*

* * *

Пачатку для нас, відаць, няма
І канцы не вяжуцца ў пачатак.

Дзе той час, календары нашага зла і дабра,
збораў і страт штодзённыя спісы,
Гадзіннікі тыя, што дбайна мераць нібыта
часу цячэнне?
Пачатку для нас не было і няма
І канцы і пачаткі – толькі адно імгненне.

О, гэты светачас, якога ўжо, мабыць, няма!
Як ён праз пальцы яшчэ цячэ-працякае
ў бяздоннасць
І застаецца адна сусветная туга,
Як адзіны гадзіннік нашага кону.

*2–4.04.2021*



* * *

Вітанне, дзянніца!
Хачу дачакацца,
калі нам дабра напрарочыш.

Будзь жа нарэшце
світанку пачаткам –
не плачам!

І будзь светлым днём,
– а не ноччу!

*25.08.2020*

* * *

*(знойдзенае ў маіх запісках –*
*ні то чужое, ні то маё)*

На патаптаных
моглiцах малін
цяпер асліна –
вухалісты дуб –
у дрыжачай ягонай струне
сухі ліпеньскі дождж.

Куды мне, як не ў царкву?

*24–28.01.2021*



# НАЧНАЯ СЛУЖБА

Як і ўчора, Ноч на фартэпіяна кладзецца.
Зноўку музыкай станецца яна для сябе самое.
Клавішы маўчаць, але Ночы гарачае сэрца –
І адусюль незлічоныя тоны клавесінавым роем:
Нібы накцюрны Шапэна, нібы ягоныя скерца.

Народжана Ночкай пад марш Мендэльсона,
Любіла ўсё ж згукі мінора і піянісіма мелас,
Малера сыходы ў паўсонне, з яго калыхлівай красою
І апаўночы ўлюбёны канцэрт для віяланчэлі –
Да першых пеўняў. А потым на Дзень яна
глядзела звысоку.

*11.04.2021*

* * *

Будзьце абачлівы, пілігрымы:
лёс чакае вас за дзвярыма
і галодная дарога забярэ вашыя ногі,
і калі свядомасць вас не папярэдзіць...

Ці хочаце стаяць перад ільвамі цырка ў Рыме?
Ці прыступкай толькі застацца там для нямногіх?



* * *

Светлае нешта наўкола – і тут
і там, дзе асака адна і багун,
дзе грэецца дзень на начным баку,
дзе цёплая ціш аблокі над лесам спыняе.
Нешта жывое, нязнанае плешча ў вадзе,
над полем плыве няспынным гудзеннем,
кладзецца ў разоры ўзаранай душы
і, здаецца, добрая фея цябе вядзе
з гасціны як бы да крэўных у госці
па краіне знаёмай, якой няма нідзе –
каб убачыў, адчуў, што жыццё
жыве ў харавой прыгажосці.
І прыгажосць тая – святыня яе!

*перад Вялікаднем*
*29.04.2021*

* * *

У далячынях нам невядомых,
У непражытых намі даўнотах
Для вуха ў тых цішынях музычна-рухомых
Ёсць згадкі пра пячатку духа.

Калі свет Бог тварыў, пачаўшы з уверцюры,
Ён меў жа восем толькі нотаў.
Ды нам пакінуў усю партытуру
Зямных трагедый і нятленных ўзлётаў.

А мы няспынна чытаем з той боскай галаграмы
Тое, чаго ў ёй быць не можа – апошнюю актаву.

*1.06.–9.06.2021*



* * *

Нарэшце ліст пішу сабе,
каб выказаць боль свой бязмоўны
толькі на гэтай мове,
бо няма ўжо каму распавесці болей...

У кожны дзень гляджу як у воўчае вока –
Сёння адтуль які зазірне ка мне стражнік,
Каб зноў бразнуць ключамі, нібы з палёгкай?..

Бо ён, відаць, таксама тутэйшы, сярмяжнік,
але стаім мы па іншы бок клямкі,
з рознымі душамі і вачыма...
................................................

Ды што я пішу? Чаму столькі жалю?
І да каго ён, той жаль, з якой прычыны?

Ці таму, што брамай і мяне зачынілі?
Ці таму, што я і мой стражнік –
з тых самых скрыжаляў?

* * *

Чмель зазірнуў у вакно
раніцай
і пагразіў мне –
– Ты чаму не лётаеш?!

*23.03.2015*



## ЛІМЭРЫК

Змусілі падумаць, няпэўна і ціха:
ці я жывы шчэ, ці трэба мне дыхаць?
Ці мо падняць сусветны ўжо лямант?
Бо летам я засліваў між вуллямі –
І спеў той быў маім балючым пралікам!

*23.03.2015*

# НАЦЮРМОРТ

На стале ні вады, ні ежы.
Птушынна-раслінная ціша
Ды яблык і нож, які яго разрэжа,
І ад рукі – сцяжыначка верша...

І раптам – верш зноў не пішацца,
Бяжыць ад таго, хто піша...
У флаконе пялёстак даткне-ўскалыша
І знікне, бы не ў час свой з'явіўся.

*23.03.2015*



# ПЕРАКЛАДЫ

з польскай мовы



## Павел Гайнтш



# А КАЛІ БОГ...

А калі Бог прыйдзе ў той дзень канчатковы
і явіць вачам маім паўнату моцы сваёй неаспрэчнай,
і будзе такі магутны і вечны, і блізкі, і знаёмы,
пра што не гаварылі ў кнігах даўніх ніякія прарокі?..

І здзівіць прастатою, як наш хлеб, штодзённай,
сваёй Адзінасутнасцю ў Тройцы чалавеку невыслоўнай,
калі празрысты, як плод дасканалай формы,
сваім таемным бляскам цёмную рассее мройнасць
і мізер выявіць усёй маёй зямное пыхі –
як вуснамі крануся я вечнасці келіха?..

І калі ўблытаны ў складанасці сусветаў,
здыме з шаляў шматваговых –
на любоў сваю адзінамету

І скажа: "Ад мяне ў цябе такое сэрца" –
А яно патрэскана... І амаль не свеціць?

# УСІМ САМОТНЫМ

Каму чарнейшая маркота
як не нам сціснутым самотай
і каму нябёсныя вароты
так лёгка адчыняюцца шырока

Каму як не нам рачулкі
шлюць блізкае мігценне
і хто як не мы ценяў цені
цэлым светам ў свеце гулкім

Нішчымна марыць аб рэчах
не апісаных ў кнігах пакрысе
і праклінаць аўтарытэты
ды ймкнуцца ў чароўныя высі...

Ёсць шляхі як адно бездарожжа
яны не для смяротных мэтаў
і думкі ёсць найсаладзейшыя можа
і стрэлы самыя меткія з меткіх

Ёсць словы – гарачыя сонцы
ды іскры што стануць пажарам
і стыхіяў ёсць пераможцы
што йдуць высока над краем



Трымацца аберуч шчасця
з сілаў усіх – і над зямлёю лётаць:
вось вечнае жаданне-радасць
вось вечная наша самота

# СТАРЫЯ ВЕРШЫ ПРАРАСТАЮЦЬ

развіваюцца
маюць сцяблiны
і лісце

затым цвітуць
і тады там уюць гнёзды
спеўныя радасці

хоць перацвітаюць
але ж
у маладых вачах
у новых далонях
вернуцца
іншымі вуснамі раскажуць
што іх карэнне
вечнае



# БЕЛАВЕЖА

у паўзмроку пушчы
жыццё драбязою
у ягадах кружыць
гудзе ў насякомых
пнецца да неба
івай ялінай
зяленіць Бога
поўняй шчаслівай

пушчу знішчыць
то сябе падставіць
пад Яго святыя
гнеў і нянавісць

там імхом накрыты
ляжыць веліканам
стары дуб каралеўскі
пад ім час несціханы
перад вялікаю справай
і бітваю грознай
у шуме лагодным
заснуў спакойна

стань ў задумленні
на хвілю-імгненне
хмарыцца зверам

ваўком імкнецца
цікуе лісою
у хмызе знікае
дзікам цяцерай
і законам стада
шчыльна ўрослы
моцна ўбіты
у глей, цвіль, пень ссохлы
прыцемак і ранак

яшчэ зыдзем
у зямныя падворы
дзе схапіліся
корань за корань
а голле за голле
ў барацьбе шалёнай
за прасветы
для жыцця свайго
зялёнага

яшчэ спалучым
сцежкі продкаў
вязкаю з лыка
палянаў падковы
ў буданы з'яднаем
укапаем ў ямы
каб з таго енку



успыхнула слова таксама
лагодным павевам
пасля сумных падзеяў
сюды пранікала
шчасце людзеяў
прыходзім сюды
падыхаць гэтаю моцай
у ёй наш паход пачаўся
ля вогнішча з дымам
кавалы мясішча
мёд борцяў дзікіх
бярвенне на частаколы
на абаронныя валы
на вуллі хаты калодкі да колаў

сюды вярнуцца
каб зноў быць сабою
а значыць Ягайлам
пад тым там дубам
ў густым бездарожжы
стацца лясною істотай...

не згубіць той сцяжыны
як не раз бывала
як тады калісьці
разоў столькі стала
і каб не адстала

# ПУСТЫНЯ

Ад долу да верху
між пяскоў і зорак
расплываецца час
губляюцца дарогі
шукаем ўсляпую

не зблізкаецца мэта
кружым
уперамежку
між чарнатой
і светам

хто ж знойдзе выпадкам?
патрэбны мапы
бусолі
слупы верставыя
этапы

а мы так кружым
згубленыя
ў зморы
сярод зорак
і пяскоў
бязводнай прасторы



# АСЕННЯЯ СЛОТА

не апярэдзіш імклівай думкі
і не схаваеш неба ў далонях

адлятаюць птушкі і песні
адляцім і мы пасля іх
у тым накірунку

куды бяжыш рыхлай
шэрай парою?
куды спяшаешся
сумны
без перадыху?

з адкрытых палёў
з пушчаў адменных
чуецца
крок раўнамерны
прадвызначэння

# ВЯРТАННЕ

*Над магілаю бацькі*

Яна ўсё тая ж,
вечная,
штодзённая,
нязменная ў шматколькасці рэхаў-дарог.

Колькі ні йшоў я, вяртаўся.
І як ні блукаў, знаходзіў выхад.
Толькі выраслі дрэвы
і цені
даўжэйшымі сталі
і ўсё больш мне дарагія.

Недзе музыка не моўкне,
з старога насення
зялёныя травы, надта высокія...

І тут *тады* абарваліся словы,
і тут тыя сціхлыя крокі –
і бачу:
магіла мае ў сабе святло,
адзінокае.



# ПАКІНУТАСЦЬ

Вецер прыгнаў да вуха
ціхую мову анёла,
стаяў пры мне блізка,
стаяў і гаварыў глуха.

Чыйсці дзіцёнак заплакаў.
Прайшоў я подбегам міма:
бег жа шукаць анёла
ў глушы немітуслівай.

Там быў ягоны голас
і гаварыў мне з болем
пра дзіця на дарозе,
што рыдала там з гора.

Вярнуцца было запозна,
застацца – ніякай патрэбы...
Сялібы мяне абміналі
пад бязмесячным небам.

# МАЛІТВА

Тут я. Пад купалам неба
чакаю з'яўлення Бога.
І бачу, як чорныя дрэвы
ў белую ціш ідуць дарогай.

Дрыжу, як нада мною сузор'і,
хоць у вушах ціша стаіць бязлікай,
каб Яго, калі да мяне Ён падыдзе,
ў цішы найцішэйшай змог я аклікнуць.
.....................................................

Ты даў мне святло, каб бачыў,
каб вочы мае сузіралі Тваё тварэнне,
а я ўмаліў Цябе ў свае песні,
што гараць па небакраю.

Ты несмяротны навечна, Авва.
Я рассыплюся ў пыл дазвання.
Дазволь абмінуць майму слову
званы майго пахавання.

Няхай ідуць за маёй труною
шчыльнай жывою калонай.
Няхай чыесці вусны
будуць вуснамі маімі

па-за мною, па-за мною...



## Сусана Гінцбург



# БУНТ ПАДЛЕТКАЎ

І зноў росквіт кудлатых сасанак
у золак, да ўсходу, ў світанак,
калі сонца спачыне на дрэвах,
ім як сэрца поўніцца чэрава;

А дзея плыве натуральна і проста,
як складаныя месяцы вёснаў,
калі шчэ да ўсходу золак, світанак
цвіце фіялетам кудлатых сасанак –

Ужо не цешаць нас доўгія ногі,
не засмучае касцістасць лапатак.
Ноччу ў скронь б'е кроў-пераможца,
калі месяц вакном уваходзіць ў хату –
быццам нехта здалёку явіцца ноччу
і зазірае тварам сінім праз шыбы –
срэбныя шафы згвалціць нас хочуць
(Божа, ратуй! – але калі б... калі б бы...)
Вочы закрыць – схавацца па вушы,
пад падушкі дрыжачую душу

і ў страху гарачынь сухіх вуснаў
падстаўляць пацалункам падушак.

Як цяжка вясенняй раніцай
супакоіць сэрца прыліў – салодкі груз,
калі ўгаворваюць нас клапатлівыя маці,
што змест сэрца – гэта толькі чырвовы туз.

А ці ведаць можна – а ці вывучыць можна,
як выглядае завязь распухлых сасанак –
а ці можна ўведаць – ці даведацца можна,
якой балеснай бывае зеленаватай вясны пачатак?
На купінах вясенніх індыга
балесна ляжаць без дыху
самлелыя, ліловыя сасанкі,
у вясеннім подзьмуху свежым
праплыў жаль бязмежны
на сэрцавіну палянкі.

Мы канстытуцыі хочам, свайго хочам права,
што можна нам без ганьбы ўслых зрабіць заяву
аб праўдзівасці крываяных віхур,
што можна нам ўслых казаць аб пожадзі чулай,
што можна ведаць нам, што маем цёплыя грудзі,
апрача этэрычных дур –
мы канстытуцыі хочам і праў для нас дакладна-пэўных,
што нам разумець ужо можна: мужчына – гэта ж не еўнух
і славіць мускулаў гарт,



што маем права ўжо разумець, што людзей каханне вяжа,
што можна нам не захінаць стужкамі-пражай
біялагічных – праўд!

Ізноў росквіт кудлатых сасанак
у золак, да ўсходу, ўсвітанак,
калі сонца спачыне на дрэвах,
ім як сэрца поўніцца чэрава;
А дзея плыве натуральна і проста,
як складаныя месяцы вёснаў,
калі шчэ да ўсходу золак, світанак
цвіце фіялетам кудлатых сасанак

*1933*

# ПРЫЙШЛО

(Прыйшло ка мне сёння дзяцінства ў недасягальнасць
сваю пабадзяцца)

Раней былі шуфляды поўныя ключоў бабулі –
паржавелых, бліщчачых,
тоўстых і тонкіх –
можна было на іх высвістваць размаітыя песні-рагулі.
Адны мелі басістасць чмялёў грузных,
іншыя спеўнасць глотак сірэнаў,
але найбольш было плаксівых,
што пішчалі цянюююютка, ляцюююютка
ў цішы,
як мышы.
І грукацелі коратка, звонка, сталёва адзін аб другога
ключы ад дзвярэй неіснуючых, страчаных, нічыіх, нікога.
Былі рыжа-іржавыя,
ад плесені пазелянелыя, ліпуча-млявыя.

(Прыйшло ка мне сёння дзяцінства ў немагчымасць
сябе здзейсніць)

А пазней я знайшла дзверы да ключоў згубленых,
бо кожная жыцця гадзіна мела свой замок трывожны.
І кожны дзень меў сваю недамкнёную складанасць –
згубіліся недзе звязкі



ключоў зачараваных,
на якіх свісцела мескія,
кароткія, кранальныя песенкі –
(Прыйшло ка мне сёння дзяцінства ў недасягальнасць
сваю пабадзяцца,
прыйшло ка мне сёння дзяцінства ў немагчымасць
сябе здзейсніць).

*2.03.1933*

# ЗДРАДА

Не ўпільнуе мяне ніхто.
Грэх кажановы і з замшы
павіс у схове страху мышынай галоўкаю ўніз
Прыцемкам вышмыгну з вежы, збягу
ад узброенай стражы
праз засекі куслівых дратоў
праз варты пацучыных пыс.

З руінаў падымуцца запаведзяў цяжка
стромкія скалы
ведычнага пекла дваццаць кругоў,
полымя,
скавытанне,
свіст камянёў,
фанатычная зваліцца ноч, зорак зняменне.
Ртуццю выслізгнусь з пальцаў.
Не ўсцеражэ ніхто мяне.

Ты станеш ваўком, я – плішкай,
ты – арлом, я – вірлівым дзівам...
Непранікнёнай задумай буду паперад
кожнай тваёй пагоні.
І свет не ўпільнуе мяне,
любы мой – дарагі – і мілы,
калі не захачу
сама
салодкай майскай
адданае няволі.



# ВЯРТАННЕ

І ўжо вадапады аціхлі. Спакойная плынь падплывае
шырокаю хваляй суцішань. Воблакі гінуць ў дасвецце.
Невідочныя коцяцца кеглі далёкіх планетаў,
пчолы з кветак збіраюць цёплы, вадкі нектарый.
Адкуль такое празрэнне? Адтуль. Лес малады пахне
ахвоча,
белага бляску струмень плыве шалахліва,
вядзьмаркі-шаснаццацігодкі ў імклівых высокіх
скоках
шукаюць ў траве птушанят, што з гнёзд выпалі гэтаю
ночай.

У лес уваходзіць Мінерва, багіня мудрай развагі,
патронка вопыту, мастацтва, красы і лагоды.
Вокам спагадным глядзіць на ціхамірныя воды,
букецік фіялкаў з Алімпа рукой на грудзях папраўляе
і кажа:

“Заслону з карункаў накінь на таемныя рэчы,
у якіх немагчыма прыкмеціць абрысы ўтоеных сэнсаў.
Змірыся з прывідам. Яднайся са светам ушчыльна
не разуменнем стамлівым, а жыватворным каханнем.
Паскор сваё вяртанне святое да праўды адвечнай
пры гуках труб, фуркату стужак на ветры,
пішчалках, сурмах і флейтах. Досыць бяду назваць
злом
і ведаць ўжо будзеш, ад чаго ўхіліцца, і пачуеш
аркестра акорды.

Вярнісь да сардэчных абдымкаў, сямейнай шчырай
любові,
да доўгіх сціскаў далоні, прыгожай, трывалай
сябрыны,
да думак пабожных і сціплых і бесклапотных пацехаў,
да працы няспыннай, што годна творам назвацца.
Урэшце ад гэтага часу пачуццяў вялікіх і не шукай для
мужа:
прыкмет відавочных няма дзеля іх апазнання.
Знайдзі сабе энергічнага хлопца і чулліва складзі яму
бяцанне
і тут жа агеньчык з вуснаў запальных уміг
пераскочыць у сэрца".

Лагода пейзажаў, разлітых быццам азёры,
адпушчаны са сну, зраўнялі стромы й прадоны.
Плыву па іх. Вяртаюся са сцягам пахіленых долу
за рэчамі, якія абмінула ці ўбачыла не ў часе –

і вось узброена перасцярогамі зглядзела і бачу ўкола
рэчы гармоніі поўныя, святла, найпрыгожых форм
і меры высакароднай. Не, не набліжаецца ніякі
шторм,
хвалі анідзе. Вада нібыта шкло. Не трэсне.
Вось спакой.

*1938*



* * *

Non omnis moriar – мае дзявочыя ўладанні,
Лугі маіх абрусаў, недаступных шафаў цытадэлі,
Шырокія прасціны, каштоўныя пасцелі,
Сукенкі, светлыя сукенкі пасля мяне будуць з вамі.
Ніякаму нашчадку тут нічога я не пакідаю.
Няхай жыдоўскі скарб твая далонь перабірае,
Ты, львоўская Хаміна, жонка кемлівага шпега,
Сама ўвішная даносчыца, маці фольксдайчэра,
Табе, тваім хай служаць рэчы, бо чужым – навошта.
Радня мая – не лютня, для мяне яны пустое слова.
Я помню вас, бо вы, калі ішлі шупоўцы,
Таксама ўспомнілі мяне, прыгадалі сабе проста.
Хай зыдуцца яны сябрынай за сталом пры чарцы
Запіць і смерць маю і нарабаванае багацце:
Кілімы і макаткі, міскі, кандэлябры –
А потым ноч прап'юць, каб досвіткам ізноў старацца:
Хай кінуцца шукаць і золата й каштоўнае каменне
Ў канапах, тапчанах, коўдрах і матрацах.
О, як будзе ім ў руках кіпець такая праца –
Клубы конскай поўсці і заморскага сена,
Хмары раздзёртых падушак і замець з пярынаў
Да рук прыклеяцца і крыламі стануць рукі тыя.
То кроў мая склеіць пакулле тое з пухам гусіным,
Але так акрылёных ніякая сіла ўвысь не падыме.

*1942*

# МЫ...

Хаос арэшнікаў, расхлістаных ветрам,
пахне мяккасцю тлустых арэхаў,
каровы целяцца ў парным паветры
кароўнікаў – ясляў іхняга грэху.
О, парэчкі, жыты набрынялыя,
сакавітасцю гатовыя выліцца,
о, ваўчыцы з галоднымі малымі,
вочы ваўчыц, як салодкія ліліі.
Жывіц сцякае мёдная пасечнасць,
казінае вымя цяжэй дыні –
плыве малако як вечнасць
у матчыных грудзях-святынях.

А мы...
... у герметычных
як шчыльны тэрмас,
хатніх пакойчыках у шпалеры
ружова-кволыя
ублытаныя па шыю ў сукенкі
вядзем
культурныя
размовы.

*1936–1939*



# CANTICUM CANTICORUM

Буйнеюць вінныя лозы,
  Пахучы нард
    Густа ліецца на сад –
Я пасла братам маім коз
  У спёку, у вар –
    Таму смуглы мой твар;
Сіняя ноч цямнее.
  Ад жоўтых зораў
    Гарыць, спапяляецца неба.
Сваіх вачэй хаваю агонь
  Пад кіпарысавых веек гай,
    Як сажалкі ў Газебон.

“О мілая мая, адчыні –
  У садзе тваім пуста –
    Раса з мяне сыплецца густа.
Пашавялі, адкрый вусны,
  Каб мог здагадацца зноўку
    Ці піла яблыкі надвячоркам” –
“Як магу табе адчыніць
  Дзверы рыпучыя –
    Калі ўжо скінула сукенку,
Маці трыкроць мяне праклянуць,
  А статкі коз
    Салодкага малака не дадуць”.

Гранатава ноч шуміць
Ашчэпкі вінніц ў развеі
І лісце фіг –
А я заснуць не ўмею,
Адчыняю драўляныя веі –
– А мілы знік.

Шафрану і касіі пахі.
Эфірных маслаў след
І міра цячэ па клямцы.
Павольны сцежкі бег
Гіне ў цёмнай алеі –
Змрок чарнавокі за ганкам.

Шукала паўсюль – дарэмна,
Клікала, звала яго.
Аднак не азваўся ён мне.
(А прыгожы як зорка тая,
Як нябёсаў дно –
Кожны яго апазнае).
Вас заклінаю, духмяныя панны
сарнай з лясных гушчароў,
раптоўнай як помста ланню:
Не шукайце заўчасна кахання,
Не будзіце яго,
Пакуль само не прыйдзе да вас нечакана.

*1936–1939*



# МІЖ ІНШЫМ КАЖУЧЫ

Не ўзнікла я
з праху
і не стануся
прахам.
З нябёс
не сышла
і не вярнуся ў неба.
Я сама сабе неба,
як шклістае скляпенне.
І сама сабе я зямля,
як ураджайная глеба.
Ніадкуль я
не збегла
і не вярнуся я
ў нікуды.
Апроч самой сябе не ведаю іншае далі.
У надзьмутых ветрам грудзях
і дзявочага цярпення-грацыі
я мушу
сябе
тут,
расцярушаную,
пазнаходзіць і пазбіраці.

*1936–1939*

# БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Ян Чыквін (нар. 18 мая 1940 г., вёска Дубічы Царкоўныя – памёр 14 лістапада 2022 г., Бельск Падляскі) – паэт, празаік, перакладчык, даследчык рускай і беларускай літаратур. Скончыў філалагічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. Доктар габілітаваны, Прафесар. Узнагароджаны Залатым медалём "Zasłużony Kulturze Gloria Artis", медалём Францыска Скарыны.

Быў чальцом Саюза польскіх пісьменнікаў, і ганаровым – Саюза пісьменнікаў Беларусі. З 1989 па 2022 – старшыня Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", з 1990 – рэдактар выдавецкай серыі "Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа»", з 1998 па 2021– літаратурна-мастацкага і беларусазнаўчага часопіса "Тэрмапілы", пабачыла свет 25 нумароў. Друкаваўся з 1957 года. Аўтар паэтычных зборнікаў: *Іду* (Беласток 1969), *Святая студня* (Беласток 1970), *Неспакой* (Беласток 1977), *Светлы міг* (Мінск 1989), *Кругавая чара* (Беласток 1992), *Свет першы і апошні* (Беласток 1997), *Крэйдавае кола* (Беласток 2002), *Жменя пяску* (Беласток 2008), *Адно жыццё. Выбранае* (Беласток 2009), *На беразе Дубіч Царкоўных* (Беласток 2010), *Здарылася быць* (Беласток 2015), *Пры стале агнявым* (Беласток 2021); кнігі прозы *Трохкрылыя птушкі* (Беласток 2018); у перакладзе на польскую мову выйшлі кнігі паэзіі: *Na progu świata* (Warszawa 1983), *Splot słoneczny* (Olsztyn 1988), *Odpoczynek przy wyschniętym źródle* (Białystok 1996).

Аўтар літаратуразнаўчых даследаванняў: *Afanasij Fet. Studium historycznoliterackie* (Białystok 1984), *Далёкія і блізкія. Беларускія пісьменнікі замежжа* (Беласток 1997), *Беларуская літаратура Польшчы. Бібліяграфічны даведнік 1957–1998* (Беласток 1998), *Па прызванні і абавязку. Літаратурна-крытычныя артыкулы* (Беласток 2005), *Ідэя. Вобраз. Інтэрпрэтацыя* (Беласток 2014), *Імёны. Творы. Кантэкст* (Беласток 2020). Укладальнік, рэдактар многіх выданняў: *Antologia poezji rosyjskiej, 1840–1895* (Warszawa 1984), *Беларускія пісьменнікі Польшчы. Другая палова XX стагоддзя* (Мінск 2000), *Беларускае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа" 1958–2003* (Беласток 2003), *Шлях па прамой часу. Да гісторыі беларускай літаратуры Польшчы 1958–2008 гг.* (Беласток 2007), *Белавежа. Літаратурны альманах* (Беласток 2011), *Каляндар беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" 2017* (Беласток 2016), *Літаратурны каляндар 2018. Гісторыя беларускай літаратуры Польшчы ў кнігах (1958–2018)* (Беласток 2017) і інш.

Пераклаў на польскую мову: Aleś Razanau, *Podarunek matki chrzesnej* (Białystok 1997), на беларускую – *Лісце срэбнай таполі. З польскай лірыкі XX стагоддзя* (Беласток 1970), *Запіскі янычара Канстаціна Міхайловіча, серба з Астровіцы* (у сааўтарстве з Галінай Тварановіч, Беласток 2008).

Асобныя творы паэта перакладаліся на англійскую, італьянскую, нямецкую, рускую, сербскую, украінскую мовы.



# ЗМЕСТ

## ЛІЫКА

## ПЕРАКЛАДЫ

Павел Гайнтш



Сусана Гінцбург

